# УДАРНІКІ



АЛЬМАНАХ
ТРЭЦІ



ДЗЯРЖАУНАЕ ВЫДАВЕЦ. БЕЛАРУСІ
МЕНСК ЛІМ 1934

# УДАРНІКІ

АЛЬМАНАХ ТРЭЦІ






ДЗЯРЖАЎНАЕ ВЫДАВЕЦТВА БЕЛАРУСІ
МЕНСК ЛІМ 1934

С. ПІНЧУК

# ПАМЫЛКА

(Апавяданне)

I.

НА ДВАРЭ мяцеліца. Вецер глуха шумеў у коллях высокага частакола, весела свістаў у драцянай загарадзі. Жорсткі снег, нібы шротам, грукацеў у светлыя шыбы казармы.

Казарма жыла. Здавалася, яна падзадорвала непагадзь і звонка рознагалосіла. Задорна граў гармонік, белакуры чырвонаармеец старанна выбіваў танец пад гучныя воплескі і смех байцоў.

У ленкутку кожны заняты сваёй справай. За квадратным столікам чатыры чырвонаармейцы — аматары даміно — шумна „заганялі казла“.

— Тры-тры... кругом.

— Праехала,—уздыхаў Дземчык.

— Садзіся на свой канец.

— Канчай! — падскочыў Шарыф-Галіеў, моцна стукнуўшы касцяшкай. Яго шырокі скуласты твар весела бліскаў вузенькімі чорнымі вачыма.

Міхась Косцін размалёўваў „Дошку яч. ЛКСМ“. Нагнуўшыся над сталом, ён старанна выводзіў: „Комуністы і комсамольцы, якія не з'яўляюцца прыкладам у баявой-і палітвучобе, парушаюць воінскую дысцыпліну, не варты годнасці комуніста і члена ленінскага комсамола“.

Ён быў высокі, каранасты, стройны чырвонаармеец. Толькі нядаўна вылучылі Косціна адказным за арганізацыю дапамогі адстаючым комсамольцам. За працу ўзяўся з усёй сваёй шчырасцю. Побач шчупленькі Крупкін, туга перацягнуты папругай, размалёўваў дыяграмы для дошкі Косціна. Яго заўсёды брытая галава свяціла месяцам, а высунуты язык праробліваў аднолькавыя рухі з пэндзлікам.

На шырокіх лістах паперы выступалі адзін за другім рознакаляровыя слупкі дыяграм. Злучаныя два слупкі паказвалі: адзін

каляровы—паспяховасць усяго ўзвода, другі чырвоны—паспяховасць комсамольцаў.

— Глядзі, як падняўся чырвоны слупок у „добра“ па палітвучобе, а ў „здавальняюча“ ніжэй каляровага.

— Ого, куды ён залез у трэцім узводзе.

— Натое ён трэці ўдарны,—перакідваліся чырвонаармейцы, поўкругам абступіўшыя Крупкіна.

— Заўважай,—комсамольцаў па палітвучобе „слаба“ няма.

— Затое паглядзі на тэлефонію і лінсправу, ды і з дысцыплінай не зусім,—сур'ёзна, не гледзячы, гаварыў Косцін.

— Міронаў, паглядзі на свой чацверты ўзвод—у неба папёр „слаба“ па дысцыпліне. Ды яго Крупкін у чорны колер афарбаваў. Эх ты, узводны арганізатар... Ці не слаба ў яго самога?—смяяўся баец з трэцяга ўдарнага.—Вучыся вось дзе,—і ён тыкаў пальцам у слупкі трэцяга ўзвода, дзе „слаба“ не было.

У казарме змоўк гармонік, толькі жаласліва трымкала балалайка. Даносіўся матыў сумна-гуллівага „Страдания“. Праз адчыненыя дзверы Косцін бачыў, як аднавясковец Капчук Колька, закаціўшы за павекі вочы і схіліўшы галаву, тонка падпяваў:

Эх, вы не плачце, дзеўкі, дужа,
Прыдзе восень...

Ён адначасова адной рукой старанна загінаў халяву цесных ботаў, якія перарабліваў на манер „джымі“.

„Гэты таксама цягне ячэйку назад“. Косцін хоць і быў у нядрэнных адносінах з Капчуком, усё-ж яго ўнутрана не далюбліваў. За што,—і сам добра не ведаў. Ці за тое, што яго бацька быў працаўнікам калгаса, ці за яго гуллівую натуру і недысцыплінаванасць,—хто яго ведае?!

У ленкуток з шумам уваліліся Шульц—сакратар партыйнай і Ахраменка—сакратар комсамольскай ячэйкі.

— Ну як, таварыш Косцін, спаборнічаеш?—спытаў Ахраменка.

— Дзейнічаем, таварыш Косараў.

З лёгкай рукі палітрука Ахраменка атрымаў новае прозвішча—„Косараў“. Яно моцна прывілося сярод чырвонаармейцаў, і сам Ахраменка так прывык да свайго новага прозвішча, што часта на пераклічках забываўся адказваць на выгук—Ахраменка.

— Вось паглядзіце, генеральныя, якую мостру паспяховасці я прыдумаў,—і Косцін пацягнуў іх к Крупкіну.

— Ой, ёлкі-палкі, паглядзі, Косараў, твой комсамол цягнецца чарапахай,—сказаў Шульц. Гаварыў весела, але ў яго заўсёды

выходзіла сур'ёзна. Чорныя густыя бровы хмура сходзіліся над носам, а падстрыжаныя валасы, якія раней віліся буйнымі чорнымі кудрамі, пераліваліся каракулем.

— Бачыш, колькі „слаба"... А чацверты ўзвод?.. Ды і „вудачак" колькі па палітвучобе.

— А „слаба" ліквідавана.

— Адставіць... Калі па палітвучобе будзе ў комсамольцаў слаба, дык тады вас біць і то мала. Ды яшчэ да гэтага часу комсамольцы маюць „слаба" і па дысцыпліне.

К гадавіне Чырвонай арміі ліквідаваць ганебную адметку „слаба" ва ўсіх узводах, як клас. Чуеш, комсамол, і ты, таварыш Косараў? Вось задача. Дзяржыцеся.

— А ты, Косараў, на чарговым прэзідыуме заслухай Косціна; абгаварыце гэту справу; 27-га далажыш на парт'ячэйцы.

— Ды ўжо работу разгарнулі, — чамусьці нясмела сказаў Косцін.—Прымацавалі к слабым моцных. Працуюць,—паглядзі.

„Калі мы гаворым, мембрана мікрафона вагаецца..." — чулася з суседняга класа, дзе працаваў толькі што арганізаваны тэхнічны кружок.—„...Ток праходзіць праз пярвічны разгаворны ланцуг...".

У другім кутку ленкутка: „Дыктатура, бачыш, гэта... калі адзін, ну, як сказаць (запінаўся), застаўляе другога... Лепш прыклад. Раней буржуі мелі не толькі багацці (пашло весялей), але трымалі ў сваіх руках уладу, армію, паліцыю, зброю. У іх была сіла. Яны расстрэльвалі рэволюцыйных рабочых, трымалі ў турмах і ссылалі ў Сібір праваднроў—вось гэта дыктатура буржуазіі. У нас дыктатура пролетарыята накіравана..."

Ля стала, пад партрэтам Варашылава, комсамолец, стажыр-ком аддзялення, з вучэбнай вінтоўкай у руках тлумачыў двум байцам: „Венчык баявой лічынкі захоплівае шляпку патрона... Баявыя выступы заходзяць у прадоўжны паз..."

Трое чырвонаармейцаў пацелі над „дошкай тэхнікі". Яны прымацоўвалі разрэзаную тэлефонную трубку, зумер, разгаворныя клапаны. Дошка пакрывалася каляровымі надпісамі, дробнымі слупкамі тлумачэнняў.

Косцін агледзеў кругом працуючы клас, выпрастаўся і цвёрда сказаў:—Гэта змагаюцца за ўдарную ячэйку, за ўдарную роту. Ганебнае „слаба" не к гадавіне Чырвонай арміі, а к гадавіне смерці Леніна ліквідуем, таварыш адсекр...

На сцяне рэпрадуктар зайграў ражком гарніста: „Ад-бой, ад-бой..."

Ленкуток з грукатам выпушчаў байцоў.

Косцін спяшаўся. „З пастановы 3-яй усеармейск...“ Белая фарба распаўзалася, літара „к“ прымала форму Балтыцкага мора з затокамі.

— Лажыся спаць,—гучэў днявальны.

— Браток, адну хвілінку, кончу літару.

— Зараз, зараз, секундачку—заб'ём казла,—прасілі заядлыя гулякі ў даміно.

— Ну, пяць атрымалі?

— Адзін сухі 12 звычайным ровен,—не ўнімаўся чарнявы Дземчык,—да яшчэ ў задатак адзін вісячы.

Косцін хутка раздзеўся, акуратна склаў „па ўставу“ адзежу, лёг. „Трэба заўтра зрабіць новую дошку ў калоне ганебнай адметкі „слаба“, куды кожны дзень запісваць зрыўшчыкаў... Афарміць соцумову з чацвертым адстаючым“.

Потым разам з дрымотай паплылі ўспаміны працы ў калгасе. На дварэ шумела мяцеліца. Косціну снілася. Блішчыць жоўццю ядранае жыта, а ён весела падрэзвае яго траскучай жняяркай. Воддаль гудуць трактары, заворваючы залацістую пожню.

## II.

Косцін днявалiў.

Было далёка за поўнач. Аглядаў доўгую з шэрагам белых слупоў казарму і думаў: „Цяпер у калгасах якраз такія кароўнікі будуюць, а цар панастроіў такіх абор для салдат. Вось скончаць новыя казармы, а гэта добрая стайня будзе“.

Паветра было напоўнена храпам і свістам спаўшых байцоў. Роўненька пад шнур, як чырвонаармейцы на парадзе, выстраіліся ў чатыры рады ложкі. Як адзін бялелі, акуратна складзеныя ручнікі на ўказках. Паабапал праходу ў тамбур аднавобразна чарнелі пятліцамі з белымі трафарэтамі вешалкі шэрых шынеляў. Партрэты і рознакаляровыя плакаты танулі ў поўцемнаце.

Цішыня, аднавобразнасць і поўцемень наганялі сон. Косцін сілком расплюшчваў вочы, пачынаў чысціць штых, сон перамагаў. Скінуў шынель, падцягнуў падпругу, разагнаў складкі гімнасцёркі. Успомніў, што за абшлагом рукава шынелі ляжыць, атрыманы з калгаса, бацькаў ліст. Дастаў і пачаў чытаць.

Перад вачыма ўстаў вобраз.

Лямпа восьмы нумар слаба асвятляе пачарнелыя сцены, партрэты правадыроў. Толькі ўнізе над лаўкай выразна зззяе каляровы

плакат з урадлівай морквай, турнепсам, кармавымі буракамі. У зялёнае лапушыстае бацвінне ўпляліся словы: „сейце корань-плоды“.

За сталом бацька, гладзячы невялікую з сівым адценнем бараду, дыктуе непаседліваму сыну Грышку:

„Дарагі сынок!

Даўно ўжо атрымалі твой лісток і дзякуем за памяць. Не забыліся таксама пра цябе і нізка кланяюцца маці, браты Піліп і Грышка, сястра Ганка, а таксама твае тава-рышы-комсамольцы і Восіпава Верка.

Вось калгас наш не пазнаць. Новы старшыня з самай вясны дужа спраўна павёў справу. Вельмі хутка, як кажуць, паўдарнаму, вялі жніво. Набылі яшчэ дзве жняяркі. Жалі, зразу і малацілі. Збіралі кожны каласок. Нашаму Грышку за гэта нават прэмію далі, і ён цяпер у святошнія дні, як ваенны, носіць новы піонерскі касцюм.

Вартавалі засевы дзень і ноч. І ўжо леташнія гультаі не назапасілі без працы хлеба. Я сам быў вартавым і злавіў Ёсіпавага Алёшу, як ён краў з Забярэззя жытныя снапы. Другі раз яго злавіў сам заўгас, і ўжо пасадзілі яго, зладзюгу.

Затое прыбытак маем добры. Ужо канчаткова раздзялілі дабро, і вышла па 2 кіло 600 грам жыта на працадзень, па 800 грам аўса, па кіло ячменю, таксама бульбы і сена. А летась было менш чым кіло хлеба на працадзень, і атрымалася, што ў самую касьбу сядзім без хлеба, а гультаі нацягалі дабра і смяяліся з нас. Цяпер хлеба—уга як хопіць! Трохі прыдзецца і прадаць. Яшчэ ніколі да калгаса мы не мелі гэтулькі дабра. Цяпер сапраўды становімся заможнікамі.

Дзяржаве яшчэ ўлетку аддалі, што належала. Вось ты пагавары з Міколам Капчуком, яго бацька не здаў яшчэ другой раты хлеба дзяржаве і, калі прышлі з совета, дык ён крычыць: „Не маеце права, мой сын у Чырвонай арміі, советы абараняе, а мяне тут абабраць хочаце!“ А ў самога збожжа многа. Не прыгожа было слухаць.

Яшчэ—ацялілася наша „Прымака“, прыгожую цёлачку нарадзіла, гадаваць думаем. Малачко ўжо ёсць, старая ўхітрылася нават масліца збіць, ды і сала яшчэ вядзецца“.

Гэта, вядома, з палатак матчыны словы. Яе зморшчаны жоўты твар асвятляецца ласкавай усмешкай.

„Прыяжджай, сынку, ёсць чым пачаставаць“.

Сон адразу прайшоў. Стала весела. У такія хвіліны хочацца з кім пагутарыць. Міхась дастаў паперу і пачаў пісаць ліст. Па статуту днявальнаму не дазваляецца займацца такімі справамі, але:

— Ніхто не будзе бачыць,—падумаў Косцін і ўзяўся пісаць.

„...Помніце, яшчэ вясною пісаў я вам аб прамове нашага правадыра Сталіна, каб зрабіць усіх калгаснікаў заможнымі. Хто гэтай вясной, як не кулаччо Янук і Сямён Архіпаў, замарыў калгасных коняй. Думалі гэтым сарваць сяўбу. Ды і старшыня Панкратаў быў добры кулацкі падпявала. Улада дапамагла вычысціць іх. Новы старшыня-комуніст павёў пасапраўднаму гаспадарку і вам стала жыць святлей.

Гэта наш палітрук заве так: „Калгасы становяцца большэвіцкімі, а калгаснікі заможнымі“.—Вось гэта пагаворка, ой, як падыходзіць вам“.

Зазваніў тэлефон.

— 31 слухае. Хто гаворыць?—Міхась прыслухаўся.

— Днявальны трэцяй роты, 2-га батальёна, таварыш дзяжурны па часці.

— Добра. Правяраю спраўнасць тэлефона,—пачуў у трубцы.

— Знаем, што правяраеш, ці не сплю.

Весела сажмурыліся бровы, кірпаты нос пакрыўся веерам складак ля броў, і Косцін прыемна пацягнуўся. Пісаў далей:

„Скажыце! няпраўду пісаў я наконт пастановы партыі і ўрада аб жніве і ахове ўраджаю? Бачыце, як клапоціцца партыя, цяпер і самім добра. Увосень прыеду. Эх, і возьмемся за работу, адзін чатыры сотні працадзён дам!“

Неўзаметкі падышоў Колька Капчук, спытаў, каторая гадзіна, вышаў на двор і хутка вярнуўся.

— Нешта спаць не хочацца. Давай выкурым па цыгарцы. Ніхто не ўбачыць—ноч-жа.

Міхась хацеў пярэчыць, што нельга ў казарме курыць, што гэта парушэнне ўнутранага распарадку, але яму надакучыла аднаму. Хацелася падзяліцца думкамі, а тут аднасяльчанін. І Косцін гаварыў, пыхкаючы цыгаркай, дым белымі пасмамі распаўзаўся па казарме. Гаварыў аб добрабыце бацькі ў калгасе, аб Колькавым бацьку.

— Чаму ты не падзейнічаеш на яго? Ён усё яшчэ і дагэтуль „анцік“ калгасны. Ды са здачай хлеба дзяржаве сорам. Ён тваёю годнасцю байца Чырвонай арміі кідаецца, а ты, чырвонаармеец, яму аб гэтым, мабыць, і ліста не напісаў.

Колька сядзеў моўчкі, краем губ трымаў папяросу і неахвотна цадзіў скрозь губы:

— Знаеш, Мішка,—кажу табе, як таварышу:—не твая справа думаць аб маім бацьку, калі я сам аб гэтым не думаю. Ён свой мае розум, а я—ты-ж сам знаеш,—не жыў з ім, а працаваў на

абудове камбіната два гады. І сувязі з ім не маю. Ды я не толькі за бацьку, а і за сябе не заўсёды адказваю.

„Мусіць, калі „пад мухай“, а гэта часцяком бывае“—падумаў Косцін.

— Ды ты стаў непадобным комсамольцу—п'еш, парушаеш дысцыпліну. Каб ты быў сапраўдным комсамольцам, то ты-б адзін, без бацькі, уступіў у калгас, як Міханька Арцёмаў, а не цягаў-бы ад бацькі сала на сваю пабудову. А кажаш: сувязі не маю.

Косцін устаў, паружавеў, нервова змяў цыгарку і размашыста кінуў недакурак на цэментную падлогу.

— Навучы ты, таварыш Косцін, але не мяне.

— Аб табе я пастаўлю пытанне на ячэйцы. Ты цягнеш усю ячэйку назад.

— Яшчэ пабачым, хто аб кім паставіць. Ак-ты-віст!—Косцін пахмурнеў. Вясёлы настрой прапаў. Уставалі чырвонаармейцы, пыталі, каторая гадзіна і выходзілі на двор.

— Іш, надыміў.

Заставалася 15 хвілін да пад'ёму. Хутка загудзе казарма. Косцін бачыў, як з яго 2-га ўзвода тоўсты гультаяваты Зайцаў, азіраючыся, у верхніх нагавіцах хуценька падлез пад коўдру.

— Гэтым не вельмі скароціш пад'ём. Усёроўна спознішся, як заўсёды ў строй. Вось як распішу цябе ў ільічоўцы, то пасмяецца ўся рота,—сказаў Міхась, а сам думаў: „Чорт яго бяры, няхай... Магчыма мой узвод сёння за тры хвіліны стане ў строй. Можа выіграць спаборніцтва“.

Заставаліся хвіліны да пад'ёму. Станавілася весела, прыемна. І толькі рэпрадуктар зайграў, Косцін, набраўшы поўныя грудзі паветра, з усёй сілы крыкнуў:

— Падымайся! Па-ды-май-ся!... Гэта вам не дома!

Падскоквалі коўдры, і байцы, хапаючыся, надзяваліся, тупалі ботамі. Запраўлялі пасцелі, пырскалі вадой і падмяталі пад ложкамі падлогу, праціралі пыл на білах ложкаў.

— Рро-та!—працяжна грымеў Косцін,—на ранішнюю зарадку ў дзве шарэнгі стр-ройся!

За чатыры хвіліны рота была ў страю. Толькі шэсць заўсёдашніх спазнільшчыкаў яшчэ запраўлялі пасцелі.

Пасля снедання, калі зайшоў камандзір, Косцін звонка адсек, падрыхтаваныя раней, словы рапарта:

— Рота, зважай! Таварыш камандзір роты, днявальны 3-яй роты 2-га батальёна. За час майго днявальства чырвонаармеец

4-га ўзвода, Капчук, спазніўся з гарадскога водпуску на адну гадзіну і чатыры хвіліны.

І энергічна казырнуўшы, зрабіў крок улева, даючы дарогу камандзіру.

Рота стаяла нерухома, і толькі рэха пакацілася па пакою, калі ў адказ на прывітанне камандзіра крыкнулі:

— Здраст...

— Здорава адрапартаваў,—хваліў Косараў.

Абступілі байцы. Збоку Капчук нервова ламаў губы і цёр угару сваю шчаціністую прычоску.

— Падрыхтавацца к заняткам!

Заляскалі затворы, зашалясцелі сшыткі і кніжкі, загрукацелі падошвы аб цэментную падлогу.

Узводныя дзяжурныя шнуравалі і разводзілі свае ўзводы.

Працоўны дзень пачынаўся.

III.

У выходны дзень весела свяціла сонца, іскрылася белая шырокая пасцілка снегу. Казарма гудзела, як вулей. Іграў гармонік, з класа зычна грымела песня:

> Па далінам і узгор'ям
> Йшла дывізія ўпярод...

Гэта трэці ўдарны вызваў на спаборніцтва другія ўзводы на развучванне лепшай баявой песні.

У кутку, ля пірамід з вінтоўкамі, чацвертаўзводнікі цягнулі:

> Праходзілі мы жалезныя масты—
> Усе калгасніцы кідалі нам цвяты.

Мудрагель Міронаў перарабліваў старую казацкую песню на савецкі лад і задаволены звонка запяваў.

У ленкутку Косцін маляваў дыяграму выплаўкі чыгуна і сталі. Побач Крупкін нерваваўся вакол чарговай ільічоўкі. Ён спяшаўся, зачапіў пляшачку, і туш чырвонымі раўчачкамі папаўзла па вузкіх палосках паперы.

— Ёлкі зялёныя!.. Давай, Косцін, пойдзем і катнем на лыжах. Не магу больш, усё пажую. Кончым пасля...

— Даёш.

Неўзабаве Косцін казыраў:

— Таварыш старшыня! дазвольце камандзе ў складзе адзінаццаці чалавек катнуцца на лыжах.

— Пад вашай камандай, таварыш Косцін.

— Ёсць, таварыш старшыня.

— У шаснаццаць ноль-ноль комсамольскі сход,—папярэдзіў Ахраменка.

— Ды яшчэ да сходу амаль дзве гадзіны.

Лыжы коўзка плылі па мяккай парошы. Весела ўскідваліся палкі, грудзі шырока наліваліся ядраным паветрам. А снежная коўдра іскрылася шматлікімі светлякамі.

— Эх, прасторышча!—гудзеў Косцін.

Чалавечы шнур, размерна ўзмахваючы палкамі, шпарка плыў у кірунку далёкага лесу. Наперадзе лёг глыбокі лог, шнур развярнуўся густой шарэнгай і застыў над абрывам.

— Эй, братва! крый за мной... Дух захопіць. За мной!— і Крупкін стралой паімчаўся ўніз.

У вушшу свістаў вецер. Крупкін выгінаўся вужакай. Яго кідала ў бакі на ўхабах, і здавалася вось пакоціцца чорным клубком уніз па снежнаму насцілу. З шырока расстаўленымі нагамі, Крупкін раптам спыніўся і з глыбокага дна звонка крычаў:

— А ну, смельчакі, за мной!.. Гэй, бабы разанскія, спужаліся?—і ён, правальваючыся па калены ў снезе, з лыжамі ў руках лез на гару.

З вясёлым піскам яшчэ раз рынуўся ўніз. Глыбока на строме Крупкін узляцеў у паветра, зашатаўся, замахаў рукамі і белым камяком скаціўся на дно.

— Я рэбят ныт баба разанска,—глытаў словы Шарыф-Галіеў і, сажмурыўшы свае вузенькія вочы, размашыста каўзануўся ўніз.

На першым гурбанку ён гібануўся і грузна пакаціўся па скату. Зверху яго нельга было згледзець, толькі белы слуп пылу сведчыў аб яго прысутнасці. Крупкін з вясёлымі жартамі збіраў лыжы і палкі. Скалячы белыя зубы, ён дапамагаў Шарыф-Галіеву абтрасаць снег. Уверсе з нястрыманага рогату качаліся чырвонаармейцы.

Косцін смела спусціўся з гары. На поўдарозе ён моцна шлёпнуўся азадкам на лыжы. З ім, хто вышэй, хто ніжэй, каціліся байцы.

— Смялей!

І з кожным разам усё больш і больш унізе чарнелі, цвёрда стоячы на нагах, чырвонаармейцы.

Шпарка ляцеў час.

Гучна прагуў чыгуна-ліцейны. Косцін адчуў, як па спіне забегалі халодныя мурашкі. Адзежа натапырылася лубам і глуха лапацела пры рухах.

Далёка на стромкім беразе рэчкі заблiскалі ліхтары фанернага завода. Захад заліваўся чырванню, а снег ціха ляжаў роўнай белай плянкаю.

— У казарму, таварышы, спазніліся,—раптам успомніў Косцін.

Спяшаючыся, імчаліся к казарме. Неахвотна Косцін адрапартаваў днявальнаму, што каманда з'явілася, і паспешна ўвайшлі ў ленкуток.

Як заўсёды, у бягучых справах гаварыў рэдактар ільічоўкі:

— Ну, дык, таварышы, пішыце карэспандэнцыі. Няўжо я за ўсіх адзін пісаць буду?

Сакратар ячэйкі злосна кінуў позірк у бок прышоўшых.

— Аб'яву аб сходзе чыталі?.. Табе-ж, Косцін, даручылі зрабіць інфармацыю аб размеркаванні ўраджаю ў тваім калгасе. А ты сябра прэзідыума—прыклад...

Развінуліся хлопцы.

Ахраменка цяжка кідаў адрывістыя словы:

— Так і ільічоўку, і сталь, і вугаль намалявалі. Косціна асобна разбярэм на прэзідыуме.

— Вось табе і актывісты, бярыце з іх прыклад!—ляцеў з кутка тонкі голас Капчука.

Сход кончыўся. З шумам і песнямі выходзілі комсамольцы. Косцін моўчкі сядзеў, абапершыся на тумбачку. У галаве карцела пытанне:—Як заўтра паглядзець у вочы палітруку?..

Казарма ззяла электрычнасцю. За акном гусьцеў шэры змрок.

## IV.

За казармай двума купкамі тапталіся ў снезе чырвонаармейцы—другі, воддаль трэці ўзвод.

— Наш узвод прадстаўляе кабельна-шэставую каманду. Мэта нашых сёнешніх занятак—даць тры кілометры ў гадзіну кабельна-тэлеграфнай лініі, абарудаваць і абслугоўваць аканечную ВТС [1]).

— Сёння, дух вон,—трэба абагнаць трэці ўзвод,—гарачыўся ўзводны арганізатар Дземчык. Ён хітра падміргнуў.—І тады

---

[1]) ВТС—ваенна-тэлеграфная станцыя.

дзяжурны будзе падаваць каманду: „Рота па-другому ўдарнаму ў 2 шарэнгі стройся!“—Адна ўмова: не мітусіцца, не крычаць і бягом, бягом...

— Падрыхтавацца!—камандаваў палітрук.—Пабачым, хто сёння возьме пяршынства. Надзеюся, другі ўзвод не падкачае.—Замітусіліся, забегалі. Кожны стараўся падрыхтаваць свае прылады.

— Узяць, хлопцы... Перагнаць трэці ўдарны!

Шарыф-Галіеў весела бліскаў вачыма. Косцін нерваваўся Ён ускідваў вышэй вінтоўку, папраўляў супроцьгаз.

— К рабоце прыступіць!

Затарахцела кабельная катушка. Разносчык шастоў размерана лічыў крокі і праз кожныя 26 парных крокаў кідаў жардзіну. Васьмёрашнік Крупкін ткнуў у фортку казармы канец кабеля, ускінуў васьмёрку на шэст і пабег далей.

Лінія роўненькім рэдкім частаколам хутка пабегла побач дарогі. Правальваючыся па калены ў снег, перабягалі байцы. Косцін закідваў за спіну кабель і ўсім целам нацягваў дрот.

— Лінія, што струна, хоць „Лявоніху“ іграй.

— Нэ лыній, а красівай дзеўка,—смяяўся Шарыф-Галіеў, заглядаючы ў створ лініі.

— Тэмпы на вялікі, якасць на два!—крычаў Косцін. Выбягаў на дарогу і імчаўся к наступнаму пралёту.

Каманда працавала хутка і чотка. Кожны знаў сваё месца і абавязкі. Вывернецца, альбо вылезе з створа шэст—вінават ламаўшчык. Пахіліць галаву тычка—васьмёрашнік не даглядзеў. Калі павісне вялым пастромкам кабель—так і знай: валялі Ваньку нацяжчыкі. Калі-ж не дагледзіць катушачнік, альбо зробіць няддбайны скрутак—будзе работа, папацее патыліца ў лінейных наглядчыкаў.

Працавалі скучана, не разрываліся, бо кожны памятаў: „Расцягнутую каманду пяць нават неспрактыкаваных бандытаў з абрэзаў перастраляе, як дурных варон“.

Неба завалаклося густымі хмарамі. У паветры нясмела кружыліся белыя мухі, садзіліся белымі шапкамі на калы, падалі на шэры снег. Воддаль дарогі стаяла адзінокая пуня. Лінія крута навярнула да яе.

Засопшыя байцы глыбока правальваліся ў снег. Асабліва даставалася ламаўшчыкам. Цяжкі лом іх зусім заганяў у снег. Толькі васьмёрашнік Крупкін умудрыўся асцярожненька, пазаячаму, бегчы па верху.

Зайцаў высока паднімаў лом, зажмураным вокам нацэльва
яго ў створ і моцна стукаў у замерзлую зямлю. Ён скінуў шлё
і выціраў потны лоб.

— Пашоў, пашоў, Зайка.—Крупкін з жардзінай чакаў пра
боіны.—Усю каманду затрымліваеш!

— Пашоў к чорту!.. Што ты стаіш над душой?.. І ён павольн
ішоў далей.

— Сарвеш спаборніцтва, будзем на чорнай дошцы вісець.

— У мяне рацыяналізатарская прапанова: наступны раз паста
віць ламаўшчыкоў на лыжы.

„Лыжы,—паплылі думкі ў галаве Косціна,—спазненне на схо
злыя погляды таварышоў. Ды яшчэ невыкананне задання па
літрука".

— Эх, і папёрла-ж, нячыстая. Закружылася галава. У ваччу—
белыя мухі гусцей і гусцей. Цёмная муць. Неўзаметкі кабел
папоўз у скураных рукавіцах, вінтоўка пацягнула назад і зары
лася ў снег.

Моцныя свісткі рэгуліроўшчыка ачухалі Косціна.

— Назад каманда!—крычаў памкамузвод.—Васьмёрашнікі,
ламаўшчыкі!

Косцін глянуў назад і жахнуўся. Да самага завароту лінія
пахілілася. Штук шэсць тычак лягло на бок. Каманда бегла назад.
Зайцаў, правальваючыся ў снезе, моцна лаяўся.

— Ударнічкі, чорт вас забраў-бы. Толькі языком трапацца.
Ззаду ўсіх цягнуўся Косцін.

— Як гэта я ўпусціў?.. У ваччу кружылі белыя мухі.

Яшчэ васьмёрашнікі замацоўвалі аканечны шэст, а ўжо пам-
камузвода завіхаўся каля тэлефона. Пчолкай звінеў зумер[1]):

— Зу-у-у, зу і зу-у-у.

— Масква. Масква.

Шарыф-Галіеў у кутку пуні, на ломаных калёсах, стукаў
тэлеграфным ключом: тут-тук, тук-тук.

— Масква?.. Гаворыць Гомель. Таварыш НС, ННС[2]) 5 с. д.,—
спяшаўся памкамузвода. Хацеў гаварыць думана-перадуманае:
„тэлеграфна-кабельная лінія наведзена, аканечная ВТС абарудa-
вана", але мімаволі вырваліся словы:

— Таварыш палітычны кіраўнік, хто першы даў сувязь?—
прыслухаўся, нахмурыў бровы. Цяжка абваліўся і паклаў трубку.

[1]) Зумер—частка фанічнага тэлефона,пры дапамозе якой робіцца вызаў.
[2]) НС—начальнік сувязі, ННС—начальнік накіравання сувязі.

— Трэці ўзвод на 8 хвілін нас перагнаў...

— Гэта сёння нам напрацаваў ударнічак Косцін...—вяла, лежачы на саломе, сіпеў Зайцаў.

Косцін моўчкі сядзеў на пярэчках застаронку. У галаве надзойлівы малаточак выбіваў дробную марзянку.

Шарыф-Галіеў зашавяліўся.

— Тук, ту-ук, ту-ук, тук—ПП ПП (прашу прыняць)—пішучы дыск заляскаў перабоем. Лента несла знакі: ПД ПД[1]).

— На-чаль-нік.

— Началнык, началнык... На-чаль-ні-ку—перадавай па літарах, чортава душа, па бланку,—уюном віўся Крупкін. Зноў узводу наклеюць скажэнняў. Давай ключ!

— Нэ мешай,—як ад мух адмахнуўся Шарыф-Галіёў. Ва ўзводзе ён лічыўся лепшым марзістам. Надзіва хутка авалодаў ключом. І зноў часта заляскаў на апараце.

У варотах высокая фігура камандзіра ўзвода.

— Таварыш камандзір узвода, ННС 5 с. д. Другі ўзвод займаецца абарудваннем аканечнай ВТС.

Камандзір прайшоў па пуні, адкінуў кабуру.

— Таварышы, вы сягоння перавыканалі планы, намечаныя камандаваннем. Замест трох, далі чатыры з паловай кілометры за гадзіну тэхнічна-правільнай кабельна-тэлеграфнай лініі.

— А ўсё-ж спаборніцтва правалілі?..

— Так, на восем хвілін.

Здымалі лінію вяла. Не было ранейшага запалу.

На цэлых 20 хвілін адсталі ад трэцяга ўзвода.

Канцылярыя роты не змяшчала прышоўшых на прэзідыум ячэйкі комсамольцаў. А паседжанне праходзіла не актыўна. Ахраменка чытаў план работы ячэйкі на студзень.

— Зацвердзіць цалкам.

Неўзаметкі курылі. Над галовамі густым туманам дым.

— Ужо і гэты кубрык курылкай зрабілі.

Напружана чагосьці чакалі. Капчук, прыпёршыся спіной к кахлянай грубцы, хітра падміргваў і шаптаўся з таварышамі.

Ахраменка вёў далей паседжанне.

— Наступнае пытанне—справа Косціна. Усе гэта добра ведаюць. Косцін без уважлівых прычын прапусціў мінулы сход. Таксама ён не выканаў даручэння паліткіраўніка. У апошнія часы наогул

---

[1]) Умоўныя знакі апарата Морзе—прашу даваць.

назіраецца зніжэнне дысцыпліны сярод комсамольцаў, тым больш мы павінны ў 10 разоў патрабаваць ад актывістаў. Я лічу, што мы абгаворым гэта пытанне і на фактах недысцыплінаванасці члена прэзідыума Косціна, мабілізуем увагу ўсіх комсамольцаў ячэйкі.

— Дайце мне слова,—падняўся Зайцаў.

— Я хоць і беспартыйны, а ўсё-ж хачу сказаць. Мала гэтага Косцін, якога ўсе носяць амаль на руках,—ударнік, прыкладстаў ілжэўдарнікам і зрыўшчыкам. Хто сарваў спаборніцтва другога ўзвода сёння на лініі?—Косцін. Чаму ён кінуў нацягнуть кабель?..

— Магчыма ненаўмысля, з кожным гэта можа быць.

— Дзе не наўмысля... Падумаеш, такія цяжкасці—трымаць дрот. Вось папробваў-бы з ломам грэць лоб. Мая прапанова:—ілжэўдарнік не можа быць комсамольцам, не толькі што кіраваць ячэйкай. Я скончыў.

— А я яшчэ дабаўлю,—усхапіўся Капчук,—Косцін ставіць ракам вайсковую дысцыпліну. У час днявальства пісаў лісты—ці не парушэнне гэта статута?.. Тады-ж курыў у казарме і нават мне даваў закурваць. А гэта што,—трыманне ўнутранага распарадку? Ды сёння-ж—гэта пацвердзіць камандзір аддзялення—паставіў у піраміду вінтоўку з нязвернутым курком. Каб гэта зрабіў Капчук, дык зараз-бы атрымаў нечарговы нарад, а з ім носяцца...—ударнік. Я знаю, што пасля гэтай крытыкі ён будзе ставіць пытанне аб Капчуку. Ды няхай...

Наперабой загаварылі, заспрачаліся.

— Адкуль гэта, па Капчуку і Зайцаву, Косцін—прыкладны комсамолец і баец, зрабіўся ілжэўдарнікам і чорт ведае кім.

— Ды гэта храновіна з марковінай, а не парадкі. Каб хто другі, дык на губе-б сядзеў, а Косціну за сёнешнюю работу камандзір падзяку вынес!

— Без цябе камандзіры знаюць, што робяць. Бач, вучыцель знайшоўся.

— Гэта лавачка Капчука. Я прапаную паставіць перш аб ім пытанне за кляўзы.

— Якія кляўзы? Вы што, заціскаць самакрытыку задумалі?

— Таварышы. Гэта паседжанне, ці барахолка?—крычаў Ахраменка.

Супакоіліся.

— Таварыш Косцін, тут сур'ёзныя справы выяўляюцца. Што ты сам скажаш?

Косцін сядзеў моўчкі. Прыціснуў скронь к халоднай цаглянай цяне. Усяродку штосьці пякучае падкацілася к сэрцу.

— Ну, што гаварыць?.. Не адмаўляю,—былі такія факты. Факты—упартая рэч. Прыпялі к сценцы. Хацеў гаварыць, скааць многа, многа. Потым стала сорамна: „што, задумаў абараняць ваю шкуру, апраўдвацца?"—мітусілася ў галаве. Ён устаў хутка вышаў.

„Пайду к палітруку альбо к Шульцу. Гэтыя зразумеюць. Выкажу ўсё, што ёсць на душы".

Забег у ленкуток, класы, але абодва пашлі на партбюро палітчастку палка. Косцін вышаў у калідор. Днявальны вярнуў, прымусіў надзець шлём.

Прыпёрся к частакольчыку, удыхаў марознае паветра. Камячыў у руках сыпучы снег, потым выкурыў залпам дзве папяросы.

„Сапраўды, чаго так ужо артачыцца? Нарабіў сам справаў, акомсамольску бярэ, што належыць. Нечага так прыціскаць руку к сэрцу".

Пашоў назад на паседжанне.

— Галасую. Ёсць дзве прапановы: мая—абмежавацца таварыскай заўвагай, і я ўпэўнен, што Косцін пабольшэвіцку выправіць свае памылкі.

— Не агітуй. Галасуй прапановы.

— І Капчука—вынесці вымову і вывесці са складу прэзідыума. Галасуюць члены прэзідыума. Хто за першую прапанову?.. Раз, два... Хто за другую?.. Раз, таксама два... Выходзіць—двое ўстрымаліся. Гэта яшчэ што за гнілы лібералізм?—устрымаліся.

Міронаў устаў.

— Я далучаю свой голас да другой прапановы. Кіраваць ячэйкай павінны сапраўды прыкладныя комсамольцы.

— Сам сапраўдны член прэзідыума, а нарады маеш, таксама прыкладны.

— Калі патрэбна, то і мяне трэба вывесці, у чым-жа справа?

— Значыць праходзіць другая прапанова. Мая думка—заўтра склікаць нечарговы сход і яшчэ раз абмеркаваць гэта пытанне.

## V.

Косцін ніяк не мог заснуць.

Вочы лавілі халодны бляск месяца. А месячны зайчык нясмела перабягаў з дзвярэй ленкутка на чорны дыск рэпрадуктара і застыў на ніжнім абрэзе зялёнай дошкі.

„...Не варты годнасці комуніста і члена ленінскага комсамола"
Як не варты... Чаму? Няўжо я—лепшы ўдарнік калгаса, прыкладны комсамолец—зрабіўся ілжэўдарнікам. Няўжо я тут у Чырвонай арміі, мог гэтак сапсавацца"—ішлі думкі.

І ўваччу плылі старонкі стракатай газеты; яго партрэт. Шырока расшпілены каўнер, ззяючы твар, надпіс: „Лепшы сакратар змагар за большэвіцкі калгас".

Назойлівай асой гудзеў другі голас:

— Ды табе зусім не месца ў комсамоле... Ілжэўдарнік... А яшчэ ў партыю мяркуеш падавацца. Натварыў чорт ведае чаго, а цяпер бярэ за жывое. Дрыжым за сваю скуру.

— Не можа гэтага быць.... Я яшчэ дакажу на працы сваю адданасць. Дакажу, што ў грудзях пульсуе большэвіцкае сэрца.

Спаў неспакойна. Уздрыгвала коўдра, камячылася мулкімі вузламі.

VI.

У класе чырвонаармейцы чысцілі вінтоўкі.

— Эх, драгулка ты мая чорнамазая, дай я цябе сальцам ружэйным падмажу, а то сядуць на твае бліскучыя плечы рыжыя плямы іржы.

Косцін ласкава падкідваў вінтоўку, лавіў яе.

Іржавая вінтоўка—гэта ганьба, несцярпімы сорам перад усёй ротай.

— На сход, комсамольцы, на сход!

Хутка збіраў затвор.

„Пасля дакончу чыстку,—думаў Косцін.—А цяпер зноў пачнецца спачатку ўчарашняе... Балюча".

Сашчаміла сэрца.

— На павестцы дня стаіць толькі адно пытанне—гэта справа члена прэзідыума Косціна. Учора на паседжанні мы разбіралі. Косціна абвінавачвалі за тое, што ён без уважлівай прычыны прапусціў сход і не выканаў задання палітрука. Але таварышы прывялі цэлы шэраг фактаў аб зрыве соцспаборніцтва, парушэння вайсковай дысцыпліны і ўнутранага распарадку, дрэнных адносін да баявой зброі.

— Я не ўспеў дамовіцца з Шульцам і таварышом палітычным кіраўніком.—Ахраменка глянуў у бок палітрука, які сядзеў супроць акна. Толькі чорныя, як смоль, закінутыя ўгару валасы былі відаць з-за разгорнутай газеты.

— Але цяпер сам падтрымліваю пастанову прэзідыума—вынесці вымову і вывесці са склада прэзідыума. Ужо пара нам пакончыць з расхлябанасцю ў ячэйцы. Пачнем з актывістаў.

Зноў закружыла вірам гарачым кроў у Косціна.

„Даволі пераядаць нутро... Вывесці, дык вывесці... Выключайце". Быццам хто ўкалоў—падскочыў. „Ага, невытраманасць... Большэвік?.. Апусціў галаву. З сораму адвёў вочы ў куток. Сустрэў позірк—чорныя вочы палітрука хітра ўсміхаліся. Ружовы шрам—памятка казацкай нагайкі—ламаўся на смуглай шчацэ. Нябачныя стрэлы позірку калолі ў самае сэрца. Не вытрымаў, апусціў вочы.

Да вушэй далятаді абрыўкі.

— Зрыўшчык... Ілжэўдарнік.

— Ставіць ракам дысцыпліну...

„Гэты павінен зразумець. Не раз-жа дзяліў свае радасці і гора".

Любілі палітрука чырвонаармейцы. Падойдзе, ласкава ўсміхнецца, і яму раскажаш, што носіш на сэрцы. Звіхнуўся—растлумачыць, дакажа, паставіць на дарогу. Знаў душу кожнага байца.

— Таварыш Косцін ныт вывадзіць прэзыдым ячэйка. Вын карош пэрэн.

„А што калі і ён таксама?"—Білася сінія жылка, шчака ўздрыгвала, быццам-бы каму падміргвала правае вока.

Падняўся палітрук, вышаў наперад. Нізенькі. Пражка папругі на ўзроўні стала.

— У Косціна атрымаўся невялічкі зрыў,—абвёў вачыма залу.— Ну, але прыпясочылі яго і хопіць. Разрэгуляваўся зумер, трэба адпусціць контрагайку і падвінціць вінт. Нельга сеч з пляча, таварыш Ахраменка. Справу маеш з жывымі людзьмі. Гавару-ж, як старэйшы таварыш, сябра партыі. Трэба знаць людзей, навылет бачыць кожнага. Вось Капчук—гэты звіхнуўся, але агульнымі сіламі і яго паставім на дарогу. А Косцін толькі памыліўся. Праз тыдзень ён змые гэтыя плямы і будзе такім-жа прыкладным байцом-ударнікам, добрым комсамольскім працаўніком. Я ў гэтым упэўнен. Ну як, таварыш Косцін?

Забілася сэрца, нібы на марзянцы, частым перабоем. Абцягваў гімнасцёрку, разганяў дробныя зборкі. Хацеў выказаць усё, што набалела на сэрцы за гэтыя дні, але патрэбныя словы разляцеліся спуджанымі вераб'ямі.

Потым выпрастаўся, рука несвядома казырнула к „пустой" галаве:

— Ёсць, таварыш палітычны кіраўнік!

Усё задрыжэла ад нястрымнага рогату.

## ЭСКІЗЫ

1.

Сірэнаю аўтабуса
вятры сталі блізка выць,
і ярасна хмары б'юцца
на шпагах бліскавіц.

Разгубленых губ высвісты
згубілі нямала дзіў,
ім яблыкам спелым не вісне
між лісцяў-зор маладзік.

А шхуны іх шумна шасталі
па шоўкавым шалю ракі,
і родзіч—нявольнік няшчасны мой—
ў галёрах суставы драбіў.

І слодыч жыццёвую чэрпалі
чэрапам „чорных" людзей,
і з кожнай царкоўнай шчэрбіны
затванены твар глядзеў.

Кут божы з падвальнай шчыліны
абкурваўся дымам пакут,
і йшлі супраць працы шчыльна
карона і штых... І пакуль

пячаць пакаленняў вычытваю,
каб знаць, як жыццё пачаць.—
Любуня! Звычайныя вочы твае
кідаюць мяне ў адчай.

Я ў свежасці вежаў,
свет—насцеж.
І, чорт-жа ёй даў, давялось

Усё на свеце зазасціць Насцяй,
вянком яе бурных валос.

І гэту
звычайнай красы дзяўчыну
мне сэрцам, ад мар галубым,
як водблеск надзей, як будучыню,
як вочы вякоў любіць.

Але... пудзіць мары басіла,
народжаны парам, як ўзрыў,
і ўецца на небасхіле
гальштук нашай зары.

2.

Пад ашалелы выгалас галоў
(на вуснах пеніцца дзікунскай помсты похаць),
так радасна сціскаць у пальцах лом,
цвікамі дзён збіваючы эпоху.

Тут, на пагорбленай курганамі зямлі,
мы засяваем будучыню, долю.
Заводы рукі труб ўзнялі:
— Смерць, смерць законам межавага поля.

Машынным вывадкам
мышыны шлях грызём,
і вёска—крот
скідае ўласнасці рыззё,
убачыла: буксірам горад (не!) не хвастаў.

Вось—
па галовах меж і баразён
трактар ходзіць агітатарам зубастым.

На вуснах смех.
Нам не стрымаць хады!
Нам нечага хадзіць панурым...

Плывуць паўз межы мінамі гады.
Маланкі ўспыхваюць бікфордным шнурам.

3.

Рыпелі вароты, хрыпелі бары,
вятры пелі ротнай капелай,
і рыфмы—
тарыфных радкоў разбяры
разважнаю смеласцю спелі.

Хіставнем паўстання
ішоў пад дажджом,
пад снегам раздум'яў дзівацкіх,
і чуў кожным нервам—
агруб за мяжой,
галосячы, голас юнацтва.

Марозныя вусы
на вуснах дзяўчат,
бы маладосці калоссі,
і толькі парой надламаны адчай
надрыўна ў туман загалосіць.

То—
выгалас, грунт загубіўшых звяроў,
падкошанае падзенне...
Гайдаюцца вецці вяршынь ад вятроў
і ценьмі апырскваюць сцены.

І вечар такі, нібы шэрасць вачэй
над горадам ты раструсіла,
і я адчуваю ва ўздрыгах плячэй,
сусвет збудаваўшую сілу.

4.

У борт начэй электры б'е прыліў,
хвалюе вушы шолах даспяванняў,
і цягне прывітаць ротфронтаўскі Берлін,
і цягне, цягне да спявання.

Я—новых дзён пралог, я на траву прылёг,
і боль натруджаных цягліц знікае:
чым дыша цэх, што спее на палёх—
узрошчана такімі-жа рукамі.

Рэспубліка!
Вось мы—тваe байцы,
Мы будучыню атакуем фрэзай,
нас майстар весела вітае:
„Малайцы!
Не хлопцы, а... галаварэзы!"

Лёс вякоў
на змуленых гарбах,
рух жыцця
у мускульных вібрацыях...
Наша праца і барацьба
родзіць свята
сусветнай працы.

---

## МНЕ ТОЛЬКІ ВОСЕМНАЦЦАЦЬ

Быў час: я за курганамі
забіраў патронаў град,
я набіваў наганы,
на дудцы дула граў.

Падносіў кулі тату
(шалеў снарадны свіст),
цяпер я за варштатам
над гебелем навіс.

Зрываю 18
распукнутых галін
(ідзе яно, юнацтва,
як гаспадар зямлі).

Да хлопцаў скокну
ў вокны,
загрукаю:
„Ўставай!“
А вокны сокам мокнуць
вясенніх разлівах.

І коціцца дарогай
карчастай да чарцей
шырокім крокам рокат
ўсхвалёваных грудзей.

Край!
кроў і крык
бяры ты мой,
і маладосць
ды на
маю!
я ўвесь у працы рытмах
хістаюся дынамаю.

Штыхоў—цмяная навісь,
да вас
за шлях крывы
нашу вякоў нянавісць
у сэрцы і ў крыві.

Закон змагання знаю:
падбіць віхлявы крок...
Вінтоўка наразная,
узведзены курок.

І ў вольны час
на месцы тым,
дзе быў і жах і спуд,
вазьму я човен месяца
да любай падплыву.

„У пырсках сонца
каса мокла
ад жуду, ад клапот.
Гайда, комсамолка,
ад зорак да работ".

Край!
кроў і крык
бяры ты мой,
і маладосць
ды на
маю,
бо сэрца ў працы рытмах
калоціцца дынамаю.

---

## У ВЫХОДНЫ ДЗЕНЬ

Трывожна спіш...
Вось грубы рокат
па целу прабягае токам
і пачынае блізка віцца,
ўрываецца ў думкі бліскавіцай,
у вушы лопаць крыллем пеўня,
на твар гарачай капаць пенай.

Павекі хутка адгарні:
то, пудзячы начнога сыча,
гудок, гарланісты гарніст—
нас да варштатаў кліча.

Ты мусіш ўстаць,—
ганебна спаць
у час атакі.
Спачынак... потым.
Ідзі (хай слюндра хныча потай)
прарыву прорву засыпаць
сваёй ударнаю работай.

Ты—франтавік.
І так раскіс?
У сполах
полаг слоў дзіравых!
Хутчэй, хутчэй, брат, коўдру скінь,
спакойна спаць не маеш права.
Капошыцца на вейках сон...
Гудок прагуў...
Пра-а-а-гу--у-л?!
...Трывога!..
І крык у горле перасох,

і бразнулі ступнямі ногі,
і ты ўстаеш
і ты ўстаеш
(а пазяханні моршчаць цела),
і ўжо ляціш,
а не ідзеш,
на голас
глоткі закапцелай.
А за варштатам (сорам шчок!)
адзначыў злосны брыгадзір сам
адсутнасць двох таварышоў,
як здрадніцкае дэзертырства.

г. Менск

---

## ВОРЫВА

Раскацістым бляскам—
лямех на мяжы.
Бадзёрае ранне,
цяплынь.
Глядзіш,
і здаецца:
ва ўсю сваю шыр
дрыжыць
медыятарам
сінь.
Лье пах свой бензіна,
ракоча матор,
напорна
імкне
у цалік,
кідаючы выклік,
юнацкі задор
тугой,
дзірванiстай
зямлі.
Паветра гудзе...
І насмешкай
здалёк:
— „Полоса-ль ты моя,
полоса“...
Рагатка сахі
(замухрышка канёк),
як цень ад крыла,
праплыла.

Павэтра дрыжыць.
Уцалік
напралом
валіць інтэр
магутны такі.
І ад
левітанскіх пейзажаў—
адно
чорныя птушкі—
гракі.

———

## ПЕСНЯ

„За плячыма ў мяне—
калысачка,
На руках у мяне—
дзіцятачка",—
У душны жнівень
пад сонцам-прысакам
Пела жнейка,
прасіла
рады даць.
Так спакон было,
што ваколіца
Захлыналася песняй-
горыччу.
Жне і скардзіцца
над нядоляю
Маладая жанчына
горача.
І таму,
што, як камень,
канула
У нябыт гэта,
сёння
рады мы.
Наша жніўная
грозна гранула
Сілай, воляю
над брыгадамі.
Разлілася,
як шыр-рака,
Ў паднябессе шугнула,
ўзнёслася...
А над хвалямі жыта
шырака
Замахала жняярка
вёсламі.

## НА ПЕДПРАКТЫКУ

...Зноў званок
і ўдар буфяроў.
На пероне
насільшчыкаў грук.
Быццам крыллі сям'і журавоў—
ўзмахі,
шорахі,
поціскі рук.
Шугануў паравозны дых.
Торгат.
Трубны
утробны
кліч.
І дзве рэйкі,
бліскучых такіх,
як слязінкі дзяўчат,
пацяклі.
— Ўсё!
Паехалі...
— Ты пра цягнік,
ці пра гэту вільготнасць шчок?..
Вадакачка прайшла.
Горад знік.
І ізноў бушавала жыццё:
— Хлопцы,
глянь,
а няхай на іх,
колькі прыданага
ў дзяўчат!..
Смешкі,
жарты,
купэ ўзнялі
на студэнцкі шумлівы лад.

Аб Палессі,
аб „цоб-цабэ“,
аб нязведаных новых днях
былі словы,
і сум,
і смех,
і бадзёрасць,
і лёгкі страх.
Быў уздым,
і не браў нас сон.
Высылалі раз'езды агні.
Была ноч.
Чуць рэсорыў вагон
і імкнуўся ў Палессе цягнік,
„У палескую глуш“,
дзе з нуды
за царом
і кагортай яго
маладога настаўніцтва
ціхлі гады,
безліч дум у гарэлцы лягло.
— Час не той,
ды і мы ўжо не з тых,—
думаў я:
— нам нідзе не прыстаць...
За акном рвала іскры з імглы.
На мастах ракатаў састаў.

г. Барысаў.

## МАКАР-АБІБОК

(Апавяданне)

1.

Сонца ў той дзень не было. Ветрык, мякка ваўняны, чуць-чуць калыхаў паветру сыраватую; па вуліцах то-там, то-сям стаялі лужыны, ручаі булькалі, паднімаліся дзень і ноч. У гэткі дзень кінуў Макар камбінат. Нават і цяпер часта ўспамінаюцца словы адной дзяўчыны—сакратара комсамольскага калектыва, якая напомніла Макару пра яго комсамольскі білет. Ён толькі рукой адмахнуўся: быццам-бы не дачуў, а мо' і зусім не жадаў гутарыць.

Кінуў-рынуў дрэваапрацоўчы камбінат; паехаў на другі завод. На заводзе тым: зэдлі, шафы, сталы ўсялякіх гатункаў выпускаюць,—свежаму чалавеку любавацца—не налюбавацца. Пачаў працаваць фрэзероўшчыкам,—гэта табе ні абы што. Абазнаўся з людзьмі новымі, толечкі пачынаў, як казана-моўлена, жыць ды радавацца чалавек.

От... прышоў аднойчы ў цэх: рана-ні-позна, як і заўсёды,—абгледзеў варштат, зрабіў пастаў і нават прапусціў некалькі пробных дэталей. А рабіць не хочацца яму. Падыходзіць майстар: рассоўвае праваю нагою пілавінне, хітра пачынае гаворку:

— Гэй ты, колькі запісаў ва ўчарашнім нарадзе рамштукоўтых, га?—запытліва паказаў на поўную вагонку сасновых свежых дэталей.

Макар спрабаваў успомніць, колькі ён запісаў; доўга вадзіў далонню левай рукі па слізкай дэталі, але так і... Тады майстар борздзенька падышоў к варштату, згроб пілавінне і, нібы жадаючы абрушыць гэты варштат, упёрся ўсім сваім станам, пераклаў цыбатыя ногі на дзеравяны пакароблены казёл,—не змаўчаў, а прасмуражыў расцяжліва:

— Прыпісаў, прыпісаў со-це-ень-ку-у, а-а? Э, брат ты мой. Глядзі, брат ты мой...

Нос скрывіў; здавалася, што ён у яго з гумы: загінаўся выгаварваючы: „глядзі, брат ты мой"...

Праз некалькі дзён зноў здарылася гэткая непрыемнасц у жыцці майго Макара.

Вось пачалі на сходах абгаварваць, пастановы выносіц „З працы зняць",—казалі адны. А два-тры маўчалі: нібы спачу валі, пабойваліся, каб Макар ды часам не выказаў іх—гэткіх, я сам; трэція з рукамі і нагамі далучаліся да першых. Так уж нагаварылі, што аж у вушах пішчала.. А Макару і без гэтаг здавалася, што сябры абразліва яго абыходзяць; „ворагі" на мысля не зводзяць позіркаў, пасміхаюцца сабе ды выгаварваюц з нянавісцю гэтыя слоўкі:

— Э... э... кум, не з той нагі скакаць пашоў.

2.

Пасля таго якраз шэсць месяцаў, як капля вады, стукнул

На стале ляжаў свежанькі, надрукаваны на машынцы, кава лачак паперы. Макар узяў яго ў свае халодныя рукі і тут-ж прачытаў:... „Позва... з'явіцца на грамадскі суд..." Пачуццё яг роспачнае, стомленае напомніла яму ўсё, да капелькі, пройдзе нае-перажытае.

У пакоі было ціха і сыравата; тхнула пахам сасновага піла віння. На сценах віселі старыя, забруджаныя клапамі, абоі. Кал акна і сцен стаяла чатыры дзеравяных койкі. А радам з печкаі і дзвярыма, на іржавым цвіку вісела кайстра чорная; койкі был засланы цёплымі сівымі коўдрамі.

Макар тады сама што з дзяўчатамі загульваў. Не хапала божага дня, дык ночы падточваў. Цяпер толечкі прышоў. Як і вы ведаеце... сеў, лятуцеў, лёг—не перастае думка пра грамадскі суд З панядзелка таго сонечнага (жаніліся па дахах вераб'і) суму дзяцюк, ад людзей добрых хаваецца. Рабіць не хочацца, д дзяўчат цягне, і грамадскі суд яшчэ табе!

Перад ім цепліцца, іскрынкамі-лункамі паблісквае электрыч ная лямпачка. У яго на ілбе ўсхапілася жывая сіненькая жылка Яна то ўзбухае, то хуценька знікае ды зноў паказваецца. У вача дагараюць ружы-кветкі, а за чорнымі спацелымі шыбінамі сіне маладое неба. Вось ветрык-пранырa бойка пракоціцца па даху вырваўшыся ў чыстае поле, за шырокі луг, пaдшывальцам-жэў жыкам гуляе—не нагуляецца. Адылі залучыць на пасёлак, неда

ужна памацае макраватаю лапаю за сцены сухія, закалоціць ыбіну ў вакне,—мабыць Макара будзіцьме, але...не пабудзіць. Жыве Макар—усероўна як дрэмле.

3.

Ідзе дамоў.

У руках чорны—гарадскі—чамадан.

На Макару новенечкае паліто, касцюм толечкі куплены—уконны, боты хромавыя—паблісква́юць. От маршам паходным алучыць к матулі. О, яна не пазнае. Скажа: паніч нейкі, а пасяя?—пасля: сыночак-галубочак, рыбка мая, сонейка яснае, так ы гэтак.

Шыр паднябесная раскінулася неабмерна-шырокая, сіняя-сіняя; оле, ой, поле!—дываном белым заслана. Лес то-сям, то там ракідаецца: густаваты, прысадзісты, а то і зусім рэдзенькі, онкі. Вось на палянцы—сасонка стаіць. Сонейка ўдоваль не агулялася, не нацешылася, а ўжо падае за вострыя грабяні лесу таго далёкага, чорнага. Дарога віецца, бяжыць падлескамі, хавінамі, балатавінамі; нацянькі, цераз вёску з новымі агародамі, паўз крыж стары пахілы вядзе Макара ў матулін двор, бацькаву хату.

От і хаціны ў вачах паўсталі; стаяць-дрэмлюць, роўна чародка змардаваных авечак. А вязы тоўстыя галінастыя (садзіў х нябожчык: дзедавага бацькі—дзед) прывіталі ласкава, як верныя вартаўнікі ўсміхнуліся:

— У госці? ма-ла-дзе-эц!

А Макар кроку прыбавіў, пасігаў борздзенька; бачыць хату матуліну. Выцягнуўшыся стаіць яна, углядаецца сваімі пажаўцелымі вокнамі ў крыніцу.

Матуля адчыніла дзверы. З вядром парожнім стаіць, чакае, мабыць, што вымавіць гэты паніч падарожны.

Макар стаў на ганак. Руку ёй падае, „добры дзены“ кажа.

— А хто бо вы, адкуль будзеце?—пытае яна.

— Сына Макара, што ў горадзе цяпер... памятаеце?

Ой, як падбітая птушка заварушылася, захвалявалася і вядро тое кінула долу. Твар яе пасвятлеў, але дума была недаверлівая...

Доўга пазнавала, углядалася, сама сабе верыла—не верыла, але пазнала маці дзіця сваё роднае, пазнала. Паўстала перад ёю праўда ўся.

4.

Не раз успамінае Макар, як ён малым жэўжыкам б
асабліва тады, калі хлопцы пачнуць апавядаць аб прыгодах
радасцях сваіх дзіцячых:

— Быў у мяне дзед, ды хадзілі мы з ім у лес на зайцаў.

— Была ў мяне бабка,—кажа другі:—ой, добрая бабка: гар
зоў па многу давала.

— Мне тата цукеркі з горада прывозіў,—яшчэ лепш ка
трэці.

Слухае Макар, позіркам прагным, расчуленым, удаецца ў гэт
дзіцячыя твары, руку ўшчэпіць за вуха, цягае за валасы; хочац
яму, ой, як хочацца, расказаць хлопцам сваім, ды не ведае як. Д
хіба-ж ён хадзіў так, як іншыя, з дзедам на паляванне, хіба
была ў яго такая бабка добрая?

...Была ў яго маці. Шкадавала сынка свайго аднаго шал
лівага, распуснага. Паслухаць ёсць чаго, калі пачне казаць,
гаравала ды яго гадавала; аб тым, што жыта жала—крыку
калыхала, цераз брады глыбокія пераносіла, як дома кіда
і, прышоўшы з поля—цяжкай работы—шукала сына, не з
ходзіла.

Хаваўся ён за гумнамі, у садзе; на дрэвы лазіў, каб не ўшч
вала маці за шкоду зробленую. Яна і плакаць, яна і галасі
а Макара ўсё няма, як у ваду тануў. Нябожчык дзед Мікі
(няхай яму на тым свеце добрым ікаецца) бывала з люлька
во гэткаю, доўгаю выйдзе, ды зазлуе-зазлуе: „Нядаўна, штс
іх павыдушвала, са стрэх ды гародаў выбавіў...“ Адылі пады
к матулі, затрасе барадою сівою, уроніць ёй напамін гэт
„Схадзі, Прохначка, у сад, мо‘ там зашылася брадзеня гэтае.

А Макар усё чуе, калоціцца, як у трасцы-хваробе. Не хочац
яму паказвацца: ведае і без гэтага, што добра пачастуе ма
паўрозамі. Кінецца от хто-небудзь туды,—убачыць ён, ды
закрычыць, як зараве на ўсю вуліцу, дык аж рэха ў тым кан
вось гэтак і адзываецца: „Ой, ма-ма-чка-а-а, ма-ма-чка-а-а,
бу-ду-у, не бу-ду-у“...

5.

Бацькі Макар не памятае. Нарадзіла яго маці перад саменька
вайною; кажуць, што бацька тады быў ужо на пазіцыі. Раска
ваюць яго таварышы-равеснікі, што на фронце, недзе блізка ка

рада Рыгі, як наступалі, дык у яго знарадам дало; аб тым гавоць, што і костачак нідзе не знайшлі бацькавых.

Макар бачыў бацьку свайго на партрэце... (я аб ім нічога не дам, бо ведаю яго гэтак, як і Макар, або вы, дарагі мой сябра. кажу караценька, вось гэтак, як добрыя людзі казалі).

...Быў ён сэрцам і душою добры чалавек. Майстар на ўсякія работы: сталярнічаў, бандарнічаў, часта—вясной—плыты няў. Рабіў цяжка. Жыў бедна. Цярпеў голад і холад. Часта обіў выпіваць (тады начаваў з гусьмі ў гусярніку). Не жыў, гніў. Пагналі яшчэ яго на вайну—жыццё сваё там скончыць. апомнім гэта!

Нават і цяпер часта ўспамінаюць Макаравага бацьку Якуба. лядзяць людзі на ягоныя цабэркі, дзежы, куфры, дзівяцца, што оцныя; добрым памінаюць нябожчыка—небараку.

6.

Здаецца Макару, што ён доўга спаў, не прачынаўся. Устаў озняй вясной; усюды зелень слепіць вочы, птушкі спяваюць ясконцыя прыгожыя песні.

Яму прыемна, што ідзе ён па зялёнаму выгану, перастаўляе вае куцаватыя ногі, успамінае той дзень, калі ён, стомлены, рыблукаў сюды. І, як сёння, за недалёкім залужжам параскіданы ылі хаткі. Чорненькімі, непрыветлівымі здаваліся яны. На водшыбе клінам вострым урэзаўся ў балатавіну стары, пануры лес. Праўда, тады было сумна-бела... цяпер—зелена... На выгане шырокім ходзяць коні, памахваюць хвастамі.

У крыніцы гагаюць гусі. На вуліцы не ўнімаецца дзіцячая гамана. Пракоціцца, скажам, дарогаю машына або трактар затрахтаруе,—тады яны роем ляцяць на дарогу. Пачапляюцца і хоцьбы што: едуць, павысалопваўшы языкі, аж абрыдзе табе.

— Чэрці нястрыжаныя, — зазлуе трактарыст, абернецца ад стырна і на ўвесь рост махне рукою. А Макар адно паглядае, як людзі работу робяць.

7.

Сам Макар спрабаваў прыпомніць... Перад ім паўставалі грозныя цені; здавалася, што яны так і не даруюць яму за ягоны ўчынак, хоць ён і далёка ад іх. Патрэбна ведаць, што аб усім гэтым ён нічога не даведваўся, ды гэта яго цяпер не вельмі і турбавала. Дзіўным было якраз тое, што яму зноў хацелася спаць...

Быў ужо адвячорак, як Макар злавіў матулінага каня; хад ён каля самога балота, на тым зялёным выгане. Конь быў ху нізкарослы, з тоўстаю, як луб, скураю і сухаватымі касцьмі. Д пярэднія капыты белыя, заднія—гэткага колеру, як і ён сам--рыж калматыя. Толькі тады, калі Макар сеў на яго ды пачастав нелапым выспеткам, ён спахваціўся, гультаявата (работы ў я і без гэтага даволі) панёс на сабе злоснага незнаёмага седа

8.

Сцямнела. Сонца даўно ўжо закацілася за вёскаю, недзе ў зя ным лесе прыпынілася на адпачынак. Турботлівыя птушкі кіда дзённую працу, збіраліся нанач у свае гнёзды, звітыя з цёпл пушынак. Дрэвы, нібы памаладзеўшы, прыслухоўваліся да ко нага шораху; дыхалі, як пасля цяжкай хваробы, маладзенечкі зялёненькімі лісцікамі ядраную паветру. Недзе за ракою пад маўся белаю пеляною мокры туман; расплываўся па зялёны няскошаным лузе.

На шэраватым небе паказаліся першыя зоркі; месяц вынырн над ракою, як спуджаны белакрылы лебедзь, адпіхнуў ад ся маленькія хмаркі.

З шумам і грукатам беглі авечкі, пакідалі за сабою цэл воблакі ўзварушанага пылу. Услед за імі ішлі пярэстыя чаро кароў, і тут-жа: па адной, па дзве разбягаліся... Вёска ажывал павыходзілі на вуліцу людзі,—некаторыя спяшалі загнаць жывёл Бабы, у якіх не ўсе вярнуліся авечкі, хадзілі па вуліцы, пыта суседак: мо' бачылі... ці не заблудзіла ў ваш двор?... падыходзі к крыніцы, клікалі жаласлівым расчуленым голасам:

— Ба-а-ра-а-а, ба-а-ра-а-а, ба-ра-чка-а-а... .

Так некалькі разоў: доўга, надаедліва.

Рыпалі вароты. Курлыкалі жураўлі, дастаючы з калодзежа халодную ваду. Павыходзілі хлопцы пасля работы, парассядаліс Доўга палошчацца іхная гамана развясёлая. Здаецца і меся (чырвона-белая скаварада) не зводзіць позірку з іх, слуха песню.

Паспяваць і пасядзець, дык і Макар любіць. Адно што хлопц пасля работы, а ён пасля сну.

9.

Макар лёг спаць. Як толькі заснуў—заклекатала, забурчэл ў носе. Адкінутая на падушкі галава, нібы вось-вось хацел ўзняцца, штосьці сказануць; на барадзе выдзяляўся малень

рышчанік-ягадка, пры свеце патухаючай лямпы ён набухаў іпкаю тлустасцю.

На дварэ, як і тады, чуць не за самай сцяной, буянілі дзявочыя і хлапечыя галасы. Песня праз сон урывалася ў яго цёплыя ушы, над самым сэрцам адзывалася:

— Ой, ды сыночку-сакалочку,
ды куды ты пабіраешся?
— Мамачка—у салдацікі.

Праз сон ён чуў, як не вытрымала матчына сэрца, пачуўшы старую песню:

— У салдацікі ішлі, галовы клалі. А гэты... Спіць гэтая завала, нічога не робіць! Каб ты ўжо не ўстаў нечага, сынок Макарка!

Макар адно крутнуўся на другі бок.

Настала ноч, хлопцы, мабыць, пашлі ўжо спаць, бо іхная песня абарвалася... было ціха; толькі хрыплавата скуліў сабака. Раптам пачуўся трывожны і прыдушаны грукат ботаў. Тут-жа рыпнулі вароты; зашаркалі ногі на шырокім дварэ і нейчы халодны твар прыліп да шыбіны, засланіў сабою палову акна.

— Эй, ты, уставай!—моцна зазвінела шкло, закалацілася рама.

— Хто там?—пачуўся спуджаны голас з Макаравага нутра.

— Адчыняй дзверы.

— Хто там?—сказала маці.

— Дзверы!..

Завала адсунулася, і дзверы рыўком паехалі.

Макару здалося са сну, што ён бачыць старога дзеда, які раз-по-разу калоціць яго за руку, штосьці бармоча. Ён усхваціўся, пачаў праціраць заспаныя вочы, выцягнуў голую руку, і... адчуў, як хтосьці яго моцна выцяў па пальцах. Тады заварушыўся, як мае быць пралупіў вочы—аж гэта сельсоветчык з паперкаю ў руках.

— Ты, э! Галава! уставай! Шукаюць цябе. Ідзі. Глянь к парогу.

Макар кінуў вока к парогу, аж там міліцыянер усміхаецца.

— Напаскудзіў недзе. Цяпер знайшлі цябе.

10.

Прывезлі Макара ў горад.

Неўзабаве сабралася многа рабочых—усе з таго самага завода.

Паласастая заслона спакваля расхінулася; за чырвоным сталом—суддзя, сярэдніх гадоў чалавек, з адрошчанымі вусікамі, аб'явіў, што суд лічыць адкрытым...

На твары Макара можна было заўважыць незвычайнае тра-
пятавне хварбаў; стаяў ён, нібы воран падстрэлены, вадзіў мокрымі
павекамі.

Рабочыя ведалі Макара як маладога рабочага—„дзесяцірніка"
які ўвесь час толькі тое і рабіў, што лётаў з завода ў завод.
Амаль усе яны задавалі пытанні, а ў яго ад сораму аж вочы на
лоб вылазілі, а пад сэрцам нібы хтосьці нажом варочаў, рэжучы
яго на дробненькія кавалачкі.

Была ноч. А яго справа ўсё разбіралася; здавалася, што ёй
і канца ніколі не будзе. Гаварыў суддзя: словы яго былі колкія
і цяжкія, як каменне. Гаварылі і іншыя, але Макар іх не памятае,
бо ў іх не было гэткіх упэўненых гестаў—у якіх, здавалася
Макару, захоўвалася ўся таемнасць і злосць людская. Ён адчу-
ваў, бачыў сваімі вачмі, як людзі, ад якіх ён уцёк... надзвычай
турбуюцца аб ім, лічаць Макара не смеццем, а чалавекам, якому
яшчэ многа трэба вучыцца, працаваць.

Нарэшце, ён не вытрымаў і закрыў твар рукамі. Гэта было
тады, калі знаёмая дзяўчына сказала:

— Чорт-бы яго шукаў, абібока гэтага. Але-ж ён заводскае
начынне папсаваў з-за свайго гультайства і нядбайства!

---

## РЭСПУБЛІКА КЛІЧА

Калючыя ветры
нам білі у шчокі,
апошнія сцюжы
у трасцы лядзянай
трывогай нутро
праціналі глыбока
за кожны кавалачак
нашага плана.

— А што, калі зерні
пад беллю сняговай
вясна захавае,
прыспіць іх навекі?..
Ды ўдарыла сонца,
запелі дубровы,
аблашчыла сонца
зямлю й чалавека.

Мы ночы не спалі,
мы строга і пэўна
зніто̆ўвалі планы
ударнаю працай.
Таварыш Шабаеў,
ты помніш, напэўна,
як цяжка і добра
было нам змагацца.

Пад небам спакойным
паўднёвага жару
ішлі мы з табой,
засявалі гектары.
І вёў ты брыгаду,
аблітую потам,

на новае месца,
на горы работы.

Пад ветрам гарачым
смылелі абліччы,
і смага таміла
пад сонцавым небам.
Мы ведалі толькі:
рэспубліка кліча
за тысячы тонаў
бавоўны і хлеба.

І мы не забудзем,
мы помнім, як свята,
той дзень перамогі
і шчасця брыгады:
дужэлі усходы
на скібах багатых,
на нівах шырокіх,
на ўзораных лядах.

Аддзячыла поле
за нашу атаку
ўраджаем багатым,
шырокім, як стэп.
Таварыш Шабаеў,—
руку і падзяку
за дружбу,
работу,
за хлеб.

---

## ТРАКТАР

І майстра сказаў:
—„Ён гатовы ў атаку,
Зубастыя лапы і дужы матор...
Табе-ж за жалеза—вялікае дзякуй,
Мой добры, мой слаўны таварыш шахцёр.
Ты б'ешся за сталь і за вугаль у крэпах,
Я плаўлю, фармую, мы сілу ўзнялі"...

А ён ракатаў,
Намагаўся у стэпы,
Напоены нафтай Бакінскай зямлі.
І потым з платформаў, пад харкаўскім сонцам,
Яго пагрузілі ў вялікі цягнік.
Спяшалі вагоны і беглі бясконца
Пад гром паравоза і дужасны крык.

* * *

Ён наш.
Упрагаем яго у работу.
Нам хораша, вольна пад сонцам агністым,
На трактар садзіцца пад пылам і потам
Мой лепшы дружок—баявы трактарысты.
Цалінная глеба—тугая.
Плугі
Глыбока ўразаюцца ў чорныя жылы,
І плашма лажацца палын, быльнягі,
Што неслі гаркоту на нашы сялібы.

* * *

Хістаецца конік, і сам як нягода:
Растрэпаны косы, ў гразі, ў жаўтапёску.
— Скажы, чалавеча, чаго табе шкода,
Што мучыць, што цягне да вузкай палоскі?

Ці ты не садзіўся пад градам і сцюжай
На камень халодны, не плакаў над нівай?
Ї конік твой хілы, і сам ты нядужы,
Чаго-ж ты жахаешся дум калектыва?

Ї ён пахіснуўся маўкліва, як камень.
Тады страсянула ўсяго чалавека:
— За цёмную хатку, за хлеб з асцюкамі
Я тут разгубляў свае сілы адвеку.
Садзіліся хмары дажджамі на плечы,
Бяскорміца ціснула жорстка і хціва...
Хаўтуры... Хаўтуры над чорным, старэчым.
Узлёты, надзеі—у шляхах калектыва.

Так нікнуць адвечныя ўзмежкі і кручы,
Ліхвяр крывяжэрны не скрыўдзіць сялібы.
Ї ён ракатаў, намагаўся і трушчыў
Здзічэлыя межы на чорныя глыбы.

* * *

Ён пройдзе імшары, узніме палі,
Ї жыта шумецьме на шчаснай зямлі.
Ён дух цэмантуе, ён рушыцца стромай,
Ї нам незнаёма у працы утома.
Забойшчык у шахтах пад пылам і потам,
Ліцейшчык і майстра ад домен агністых,
Усе мы з'яднаны адзінай работай,
Мой добры дружак—баявы трактарысты.

К-с „Ленінскі шлях",
Межскі раён

## ДЗЕЦІ ВУЛІЦЫ

(Урыўкі з аповесці)

1.

Ваську Ступаку восем год. Па сваіх шырокіх плячах і бойкіх словах ён выглядаў на год дванаццаць. Ён—рослы, з моцнымі рукамі, шырокім ілбом і круглымі вачыма. Дзіцячы дом гадаваў яго: у акупацыю бацькі яго былі забіты. У дзіцячым доме Васіль Ступак першы раз паклаў свае рукі на клавішы раяля. Гукі глыбока заселі ў яго нутро. Як магнэсам, цягнула яго да музыкі. Тады ён браў табурэтку, садзіўся ля раяля. Цётка Агата, добрая жанчына, садзілася ля Ступака і вучыла граць. Дзеці, часта незадаволеныя чым-небудзь на выхавальніцу, бегалі наўкола яе, крычалі „Гап‘а“, „Гап‘а“. Гук „п“ вымаўлялі цвёрда. Тады цётка Гапа „хітрыла“, хадзіла за дзецьмі, старалася ўгаварыць іх. Калі ёй гэта ўдавалася, тады галасы „Гап‘а“, „Гап‘а“ спыняліся.

У дзіцячым доме Васіль Ступак моцна хаўрусаваў з Тамаркай, Петрыкам і Паўлікам Канаплянікам. Кампанія чатырох заваявала ўсю дзятву. Дзе быў Васіль, там былі ўсе дзеці, абступалі яго наўкола, чакалі чаго-небудзь цікавага. Усе яго паважалі. Ступак быў моцны і абараняў усіх, не дапушчаў бойкі паміж дзецьмі. Гэта падабалася ўсім. Калі Васіль браўся за зэдлік і падносіў да раяля, усе гуртам навыперадкі беглі, абступалі наўкола доўгі каштанавага колеру стол, і здавалася, што па стрыжаных чыстых галовах націскаюць кароткія пальцы Ступака. Тамарка станавілася з правага боку пад рукой у Ваські і, гледзячы на яго вясёлы твар, самазадаволена ўсміхалася.

Піонерскі гальштук красаваўся на яго чыстай тоўсценькай шыі. У школе быў першым вучнем. З першых месяцаў яго перавялі ў другую групу.

Перад вачыма дзяцей Ступак рос, як вялікі, паважны чалавек. Скора цётка Агата адвяла яго ў музшколу, дзе Ступак вучыўся за піяніста.

Ён навучыўся знаходзіць у знаёмых нешта асабістае ў харак тары. Да кожнага ў яго была свая мерка.

Петрыка ён паважаў за тое, што той дапамагаў у працы піонерзвяна. Паўлік Канаплянік, хоць і быў таварыш, але за скупасць і самахвальства недалюбліваў яго Васіль.

У дзіцячы прытулак да іх з некаторага часу прышло нешта новае, нядобрае. Беспрытульныя, якімі папоўнілі дом, лаяліся, хадзілі красці, і кожны з іх называўся не сваім імем, а выдуманымі мянушкамі. Тут быў „Самаскок", „Ціхушкін" і іншых шмат мянушак. Тут быў і Міцька Драчык. Пашлі згаворы—кідаць дзіцячы прытулак.

2.

Ён быў чорнавалосы. У яго нос тоўсты. Валасы, збітыя ў пасмы, кудламі звісалі на тоўстую, брудную, як кара, шыю. Праз падраную шапку павытыркалі кусты валасоў. Сам ён тоўсты, нізкі ростам, падобны на гарбатага. Кароткая шыя, зарослая, як мохам, валасамі. Усе яго таварышы былі брудныя, абарваныя і мала чым адрозніваліся ад—„Ціта Макарыча"—так празвалі яго.

Голас у яго моцны, як з барабана, выбіваў словы:

— Весяліся, братва, скора пра справу падумаць патрэбна.

— А вы, „сяўкі" (малыя), прэч ад нас,—дзікім зіркам кінуў на малышоў.

Чыгуначная дарога ў чатыры доўгія блішчаста-металёвыя рэйкі, як струны нацягнутыя, далёка-далёка цягнецца з усхода на захад.

Стромкія роўныя маладыя бярозкі ўпрыгожаны зялёнымі вянкамі, кучаравымі верхавінкамі, якія пакорна схіляюцца ад ветру, аддаюць паклон праходзячым цягнікам.

Пахнуць конусавыя елкі, хвоі з плямамі пажоўклых сваіх голак расчапурыліся парасонамі. Смачным пахам дыхае лясок. Наўкола маладога гушчару бульба распусціла свае белыя кветкі. На больш густой частцы лесу, якая адсеклася рэйкамі, пад густымі голлямі-парасонамі елак, як пад шчыльным дахам, прымасцілася сямейка.

Хто іх сюды прывёў?

Малады лясок гэтага не ведае. Як знарокам-бы хто насадзіў так густа елак, што перапляліся сваімі голлямі, абняліся і стварылі густую ўпрыгожаную кватэру для беспрытульнікаў. Крокаў сем улева ад прыгожай кватэры засталася невялічкая прагалінка з трыма кусцікамі папараці. Лясны водыр напаўняе маладыя грудзі тутэйшых жыхароў.

Шэпт лісткоў закалыхвае, і табе хочацца прылегчы, задрамаць. Яны прышлі сюды ўчора са станцыі, якая знаходзіцца ў трох кілометрах ад гэтага прыгожага гушчару, напоўненага чыстым, свежым, пахучым паветрам.

— Эх, чаго-б я з'еў?—сказаў невялікі хлапчук Апанас, у доўгім сялянскім халаціку.

Вылезшы з-пад елкі, як вожык, ён дыхнуў на поўныя грудзі— ці то хацеў уцягнуць у сябе як мага больш паветра, ці то проста ўздыхнуў аб сваім няшчасным лёсе.

Твар у яго быў бляды, зморany.

— Ты век не пад'есі. На, „сухара" (каменя) з'еш, абжора.

Міцька ўзяў камень і шпурнуў у таго.

Твар Міцькі Драчыка яшчэ больш пачырванеў ад злосці за словы „чаго-б я з'еў".

— Што-б табе было, каб ты пагаладаў так, як я. Шалупкі з бульбіны жадзён быў, аер еў. Скарынка хлеба, бывала, за малінку ішла... А, з сала прышоў? Плячысты на бруха... Азяліў мне голаў, пражора агідная... Нябось, схапіць трусіш. Гэта табе не ў „жлобаў" (кулака). Ну, то ідзі ад нас і без жлоба абыйдземся... Сука...

Ад гэтага страшнага крыку Міцькі Драчыка ў Апанаса навярнуліся на вочы слёзы. „Які я жлоб",—прабегла думка ў Апанаса.

— Завый мне толькі тут... то, во... І здзяжу.

Апанас моўчкі сеў ля соннага, якога празвалі „Нябеснае цела". Гэта быў добры Апанасаў таварыш—Васька Ступак.

Апанас сеў, галаву прыгнуў да кален, выцірае слёзы вялікімі палатнянымі нагавіцамі—„галіфе".

— Гэй, „Нябеснае цела". Мо' ты ўстаў-бы, як „бухар" (п'яніца) той захроп.

— На, „мандро" (хлеб) еш, працьма бруxатая.

Выняў кусок засохлага хлеба, выкачанага ў кішэні ў табаку, падкінуў Апанасу.

Васька Ступак, павярнуўшыся, прабурчэў спрасонку:

— Выпі, выпі, Афонька, „гаміра" (гарэлка) добрая... Усё... усё... да дна.

— Што вярзеш, га?—пракрычаў хрыплым, але моцным голасам Драчык.

Яны жылі не зусім у згодзе між сабою. Драчык, дужэйшы і страшны зладзюга, крыўдзіў Апанаса, навенькага вяскоўца, „неабчэсанага", ды без павагі быў да Ваські Ступака.

Ужо цямнела, надыходзіла ноч ціхая, цёплая, падкрадвалас
як „шныф" хацела браць. Вецер суняўся. Заблішчэлі ў зубах п
пяросы. Міцька Драчык пачаў гаварыць:

— Чаго задумаліся? Жыві абы дзень ды вечар, усё бліж
да смерці. Што нам сумаваць, Апанас, от вып'ем, і ўсе на бок.
Вось пройдзе ноч, нагрэтая за дзень сонцам зямля нас абагрэ
Халодную раніцуператрасем сваімі рызінамі, а там сонейк
зноў абагрэе, цяперака лета...

„Гаворыць, а што ён думае пра сябе"?—падумаў Ступак.

3.

Апанас успамінаў поле, дзе ён ганяў калматых авечак н
пашу. Тады ён перасыпаў жоўты пясок, будаваў зямлянкі. Ус
помніў малюнак яго прыгожай любімай вёскі.

— Бачыш, які „майдан",—паказалі яму пальцам на адыходзя
чы цягнік. Апанасу ўсё было цікава. Дванаццаць год пражыў
у сваёй вёсцы і далей свайго поля і балотаў нічога больш н
бачыў. Калі было яму год сем, дзядзька вадзіў у царкву. Усім
захапляўся гарадскім, але яму неяк было сумна.

За шэсць дзён ён не прывык да такога жыцця, не звыкся с
сваімі таварышамі. Усе вобразы яго вёскі перад яго вачыма
праходзілі, як свае родныя. Калматыя рахманыя авечкі мітусі-
ліся ў ваччу. Успаміналася, як Банэд з тоўстымі чырвонымі гу-
бамі гаварыў з ім падоўгу.

— Гайда сюды, што варон ловіш?—перабіў моцны крык
Апанасавы думкі.

Апанас звярнуў у бок, паплёўся за Ступаком.

Тымчасам гушчар напаўняўся новымі абдзіранцамі. „Душа-
губ"—так звалі Ціта Макарыча—быў самы большы і дужэйшы
сярод „сваіх".

Апанас доўга не адважваўся працягнуць рукі на чужое.
Драчыкава навучанне, як патрэбна „купляць" з вазоў, палохала,
калі ён спрабаваў заглядваць на чужыя вазы. Першыя дні Апа-
нас быў на ўтрыманні Ваські Ступака.

Аднойчы Апанас пашоў на здабычу. Седзячы ў сталоўцы,
супроць снедаўшага дзядзькі, як сабачанё, пазіраў яму ў вочы,
але не адважваўся прасіць. Дзядзька глянуў на Апанаса,—не-
калькі разоў падазрона пpаглядаў яго, потым пачаў штосьці
шукаць у кішэні.

— Хлопчык, хадзі сюды,—паклікаў Апанаса сівагаловы, але ішчэ малады дзядзька.

Апанас даў ходу ад стала.

— Не бойся, хадзі. Грошы на, вазьмі. Ты есці хочаш, брачок? На, даеш.

Апанас нясмела прысеў к сталу.

— Ты адкуль, хлапчына, будзеш?—ветлівым голасам запытаў чалавек.

Апанас моўчкі даеў булку з маслам, грошы палажыў у кішэню, нічога не адказаў і выбег са сталоўкі.

— Вось ліхія, кармі, глядзі іх, а ўсё на вуліцу цягне. Народ жо такі.

На другім рагу вуліцы Васька Ступак дагнаў Апанаса. Ён бачыў за паводзінамі яго і, каб не бачыў Апанас, хаваўся ў сталоўцы і наглядаў за ім.

Дагнаў яго ён і запытаўся:

— Што табе даваў той чалавек сівагаловы?

— А нічога...—утойваўся Апанас.

— У нас, брат, не хаваюцца ад сваіх. Калі што... то папалам. Ты сваім павінен быць. Каб ты зманіў Драчыку, ён табе-б косці палічыў і юшка была-б, блін і мокрае месца засталося-б ад цябе. У нас не маняць. Апошнім на палавіну дзеляцца.

Апанас засароміўся перад Васькам, які тры дні карміў яго сваімі кускамі.

— Васька, я не пайду да іх, баюся. Хадзі ўцячэм,—плачучы прагаварыў Апанас.

— На нясі. Я скажу, што ты нахватаў, а то кпіць, здзеквацца будуць.

Васіль Ступак з першага разу пачаў шкадаваць не „абчэсанага" вясковага хлапца.

Ён дастаў з-за пазухі каўбасу, кавалкі булкі, хлеб, банкі дзве кансерваў, дзве поўпляшкі гарэлкі і перадаў Апанасу.

— На, нясі.

## 4.

Уночы прачнуўся Васька спалоханы. Чуць прыдрамаў перад раніцай. Не спалася яму, усё думаў аб далейшым сваім лёсе. Гурт спаўшых быў малы. „Сяўкі", як мерзлякі, ляжалі ў кучы. Душагуб разлёгся на прагаліне. У яго хрыпела ў горле, пасвіствала ў ноздрах. Васька абгледзеў навокал.

Апанас ляжаўаў пад хвойкай. Васька адшукаў яго, па
рукою.

— Афонька, Афонька, плітуем,—нахіліўся над ім і шэ
пракaзаў Ступак.

— І я з вамі,—ледзь не плачучы, прапішчэў адзін з сяў
Ён увесь час не спаў і чуў словы „плітуем“.

— Т-т-сс, мышанё,—замахаў кулаком Васька.

— А куды мы, га, Васька?

Ступак махнуў рукой і сам палез у кусты, у бок чыгунач
дарогі.

Трое выбеглі з лесу. На станцыі чапыхаў паравоз. Услед
імі штосьці трашчала і пыхцела. Ніцам прыляглі. Петрык кр
выбег з лесу, прысеў і разглядаў у бакі дарогі.

— Кх-гасы-а-а... Кхгы-ы-ы.

— Румзае гад, што зрабіць з крывым? Цягацца, як з бандур

— Петрык, ідзі сюды.

Васька падышоў да кульгавага.

— Вось табе гранацікі. З кіем і памрэш.

— Ну і чухайма, бо скора раніца.

Куды ім ісці, ніхто не ведаў. У бок горада ніхто не на
ваўся.

Хтосьці ў лесе мармытаў сабе пад нос:

На бану-бану-бану,
Ганяў чорт сатану.

— Вось што, шчаняты,—абвясціў Ступак.—Самаскок і ты,
цябе завуць? (Ён гаварыў тым, што пабеглі за імі следам).

— Міша,—адказаў той.

— Вы пойдзеце па струнах у гэтым кірунку да першай ст
цыі і чакайце нас. Мы з Афонькай прыдзем. На руку.

Развіталіся. Апанас са Ступаком перайшлі рэйкі, шпа
пакрочылі, спатыкаючыся на пні, кучыны і праз барозны. Апа
не паспеў запытацца—„Куды мы?“

— Чаго-б я з'еў. Ой, я забыўся,—успомніў Апанас, што н
Драчыка і пасмялеў.

— І я, браток, чорта з'еў-бы, пад грудзьмі смокча. Пачак
яшчэ не тое будзе. Васька пачаў апавядаць пра сваё жыц
пакуты, здзекі.

— У гэту вясну, перад скончэннем сямігодкі, я ўцёк з д
дома. І што дурны я... Паўлік Канаплянік, Міцька і Юра

падгаварылі мяне ўцячы. Адлупілі загадчыка, абакралі вешалку ўцяклі. Цяпер я ўжо чатыры месяцы зноў валачуся. Вось да чаго сяброўства такое даводзіць.

— А колькі табе год?—запытаўся Апанас.

— Зараз трынаццаць. Ужо чатыры гады прайшло, як я сядзеў у ўгалоўцы. Аднойчы мы на бану „кожу“ цягнулі. Я падлез пад стол з брытвачкай пісаць, распісваць. Яшчэ ўсяго не зрабіў, пачуў:

— Сік-сой на бану мяцёлка сплітавана.

Апанас слухаў, але не разумеў.

— Што ты плятухаеш, Васіль? Нічога не разумею я.

— Га-а, доўбня ты!—злуецца апавядальнік.—Гэта такая мова ў нас, каб не ведалі другія. Як угалоўка раскрые словы тыя, то новыя выдумляем.

І далей:—Я ўліп да падлогі. А гэпэушнік цягне за нагу: „Вылазь, а то пасаджу“.

Садзі сабе, абы на двор не выкідаў. На дварэ быў холад. „Кожу“ не адхваціў, а ў угалоўцы прышлося парыцца. Яшчэ начальнік добры, скора адпусціў. Пасля таго, я аж да гэтай вясны жыў у дзіцячых дамах. Цяпер назаўсёды „завяжу“ (кіну красці).

Ужо развіднела. Яны ўвайшлі ў глыбокую дарогу. Па адзін бок дарогі знаходзілася жыта, а па другі—на зрытым свіннямі папары—было многа накопаных канаў і глыбокіх ям.

Далёка наперадзе відны былі за горушкай будынкі.

— Мусіць мястэчка тут?

— Не ведаю,—адказаў Апанас.—Чаго-б я з'еў?

— Кішкі „Лявоніху“ рэжуць. Скора прыдзем.—Заспакойваў свайго таварыша.

Куды яны ідуць, ім усёроўна.

Апанас куды хочаш пашоў-бы за Васькам Ступаком.

5.

Два дні пражылі ў мястэчку.

За дзевяць рублёў купілі сабе адзенне. Васька, каб не пакрыўдзіць свайго таварыша, купіў Апанасу штаны, сарочку—усяго на сем рублёў. Апанас знайшоў у Васілі сапраўднага таварыша, кіраўніка і настаўніка.

Седзячы ля дарогі ў полі, Васька палкай пісаў літары на зямлі, вывучаў Апанаса грамаце.

— Знаеш, Васька,—цяжка ўздыхнуўшы прагаварыў Апана
У нашай вёсцы была кузня, і мне вельмі хацелася працава
кавалём. Бывала, пры ганю авечак, а сам—туды і сяджу паку
зачыняць.

— Так, браток, і мой бацька кавалём працаваў, хоць я і н
памятую, але людзі ведаюць, казалі мне.

— А пакажы мне твае мускулы.

Ступак моцна сціснуў руку Апанасу.

— Ты-ж молата не падымеш, мышанё. Табе ў слясарн
там і праца крыху лягчэй. Згадзіўся-б, га?

Апанас праглынуў сліну, як перад салодкім стаяў і хаце
з'есці.

Павесялеў.

— У мяне ёсць план,—гаворыць далей Васька Ступак. Патрэбн
зарабіць грошай, адзецца коль-як ляпей, каб і на шамоўку был
калі ўжо „завязваць“, то каб чужога ні-ні...

Вечарам зойдзем у клуб, будзе кіно, я пайду загадзя, мо
п'яніна ёсць, пайграю пад кіно-фільму, грошай заробім і айд

— А я, Васька, баяўся цябе, як першы раз спаткаліся н
шашы. Ты падышоў з запытаннем: „Куды ты“? Ну, я думаў—а
калоціш.

А тут сам з такой справы...

— Ага,—перабіў яго Васіль:— ты мне скажы толкам, ка
прадаваў авечак?

— Я-ж хачу ўсё сказаць.

Яны адышлі далей ад дарогі. Апанас лёг на траву жывато
разлажыўся як лепш, бы збіраўся апавядаць аж да вечара.

— У нашай вёсцы Вялікай Мызе з'арганізаваўся калгас,—
пачаў ён гаварыць роўным апавядальным тонам.—Хто хаце
калгаса, а хто не, вядома, а ў нас быў Банэд, багаты сам, на
усёй вёскай найбагацейшы.

Яго не прынялі. Ля нашай Мызы яшчэ калгасаў не был
паблізу. Я пасвіў у сваёй вёсцы авечак. Так як большая пало
мызаўцаў уступіла ў калгас, то і мая дзядзіна пашла. І я ўжо пасві
калгасных авечак. Ну і многа ў нашых вяскоўцаў было іх. Бедн
сусед раз прышоў да дзядзіны пахваліцца, ды кажа: і я зараз заб
гацею. Расказаў, што ў Банэда адбяруць усё і ў калга
аддадуць.

Але гэта былі толькі чуткі пакуль што. Я спачатку ста
прыкмячаць, што авечак у мяне менш стала.

Банэдавы сваіх выганялі толькі шэсць, а было восемнаццаць. мне што менш, лепш, ногі не будуць балець бегаючы.

На другі дзень Банэдавых авечак зусім трое было ў чарадзе. „Абагульваць"—слова хадзіла па нашаму сялу.

Скора пачалі зносіць плугі, бароны,—калёсы звозілі. У Банэва гумно паставілі коняй.

Мая дзядзіна радавалася, што лягчэй будзе жыць. Нас было вмёра пупоў. Шэсць дзядзіных, ды я сёмы. А ёй—адной без гаспадара—пакута была.

— Ты пра Банэда, Афонька, а то скора вечар будзе,—папраў Ступак свайго апавядальніка. Васіль перавярнуўся на другі бок, глянуў за куст, прыслухоўваючыся.

— Гэта птушка, мусіць, шапянула,—праказаў Апанас і пачаў гаварыць далей:

— Аднойчы раніцой было туманна. Я авечак выгнаў на мурог. Банэд прышоў да мяне з нейкімі двума, незнаёмымі мне. Так ласкава, як ніколі мо' яшчэ не гаварыў, мо' і ў сям'і сваёй, кажа:

— Ты, Афонька, мілая сіротка, я ўсё цябе шкадую і цяпер яшчэ больш. Гаротнае ты, дзіцятка... Пасеш ты гэтых авечак, а табе і падзякі не будзе, не заплацяць. І сарочкі ты купленай не зносіш ніколі. Босы век будзеш гараваць. На, мой коцік, за тваю працу.—Даў мне жменю медзякоў.—Вось і сарочку я табе прынёс. Купленая ў пасачкі.

Мяне здзівіла. Ніколі ён такі не быў. Калі я быў на чарзе ў іх, то і не глядзеў на мяне, у сенцах кармілі, нават у хату не пускалі.

— Мой Афонька, што ўварвеш цяпер, то тваё будзе.

Незнаёмыя людзі бы нічога не слухалі. Я ўзяў кашулю ў пасачкі...

— Апанаска, не бойся іх, гэта мая радня. І яны гаротныя як і я.

Той, што быў у доўгім армяку, стаў пакіўваць галавою на словы Банэда.

— Гэта-ж маё, мой хлопчык...—угаварваў мяне Банэд.—Уткні ў страху, няхай курае,... а табе будзе вось што...

Ён выняў з-пад палы боцікі, халацік і паказаў грошы папяровыя.

А цяпер, Афонька, злаві штук пяць авечак гэтым дзядзькам на воз...

Я аж закалаціўся. А Банэд узяў за руку.

— На яшчэ,—даў тыя папяровыя, што я табе аддаў. Рука яго была цвёрдая, як камень, а грошы ў маёй руцэ, як гарачыя вугалі, пяклі пальцы.

Я паманіў авечак, злавіў, павязалі.

Адзін з незнаёмых быў з калёсамі за кустом. А туман—хоць лоб разбівай, густы, як сцяна.

Банэд аж пацалаваў мяне ў лоб, калі тыя паехалі далёка.

— Глядзі-ж ні слова аб гэтым...

— Ай, ай!—закрычаў я, успамянуўшы, што звязалі авечку маёй дзядзіны. Хацеў было бегчы ўслед, але не заўважыў куды паехалі.

— Ці-і-ху... Ша-а...—зашыпеў, як гадзюка Банэд.

— А то во... Пікнеш—зарэжу.—Выняў нож даўгі, як касу.

— Калі каму пахвалішся, то цябе ў турму... застрэляць...

Потым зноў упрашваў, гаварыў нават са слязмі на вачах.

Васіль усё слухаў, пакручваў галавою ў той бок за куст, дзе штосьці зашамацела.

— Дурак!—не вытрымаў Васіль ад злосці на Апанаса.

Апанас спалохаўся, толькі праказаў:

— Тады я і ўцёк з поля.

Вечарэла. Васіль Ступак штосьці думаў, угнуўшы голаў да зямлі.

Апанас чакаў запытванняў ад Васіля. Дзесьці блізка зараўла карова.

За кустом зашамацела, затупала. Васіль падняўся з месца, убачыў старога чалавека з клумкаю ў руцэ і ў другой доўгую пугу. Стары быў абуты ў лапці. Ногі абверчаны былі ў белыя анучы.

— Як завуць старшыню вашага калгаса?

— На што табе, Васька, га? У нас яго звалі „Лізун"—гэта мянюшка такая, а прозвішча я не ведаю.

— Так, ага... Дзе ў вас сельсовет быў?

— Совет? Кілометраў за шэсць ад нас, у Міхееўцы.

„Ну, цяпер зробім справу",—падумаў Васька Ступак. Ад Апанасава апавядання засела нейкая ненавісць у Васіля да свайго таварыша і да тых людзей, пра якіх апавядаў яго таварыш.

— Эх, гад. Жлоб пракляты, за дзевяць рублёў. Больш пашкадаваў... і спаліць... жывёлу ў гумне.—Скрыгануў зубамі, бы пясок быў на зубах.

Апанас не разумеў, што адбывалася з Васілём.

„Так, але дзед мусіць слухаў пад кустом",—думалася Васілю.

— Ад таго месца, дзе мы спаткаліся, далёка ваша Хмыза?

— Не Хмыза, а Мыза Вялікая,—паправіў Апанас.

— Недалёка, за сенажаццю-церабежжу. Вёрст тры—чатыры.

— Ага, значыць Бабруйшчына. Цяпер мы напішам ліст у алгас пра Банэда. Не бойся, Афонька, нас не знойдуць, а кулакам вось...—пры гэтым ён сціснуў руку ў кулак, потым ён пальцамі склаў рашотку.

6.

Яны трэцюю ноч начавалі ў мястэчку. Усё ўладзілася, як належыць быць.

Васіль сцанаваўся граць за два рублі.

Цяпер яны нічога не кралі, бо было завошта купляць. Тых, што адправілі па „струнах", забылі.

Сёння ў дзень яны зноў праводзілі час у трох кілометрах ад мястэчка, ля той глыбокай дарогі, па якой яны ішлі ў мястэчка. Васька накупляў паперы, рознакаляровых алоўкаў, канверт і паштовую марку.

— Афонька, ты будзеш пісаць гэтыя літары. Ён вывеў пяць літар на жоўтым пяску, сказаў назву, перадаў Апанасу палку.

— На, вучыся. А я напішу ліст Лізуну.

„Тав. Лізун. Калгасных чатырох авечак Банэд забраў з двума незнаёмымі і падгаварваў Апанаса, каб той падсунуў у конскае гумно запаленую анучку. Апанаса страшыў нажом, каб той нікому не гаварыў. Кулакоў самі судзіце. Апанаса не шукайце. Ён дурны, нічога не вінаваты. Не шукайце нас, бо не знойдзеце. Мы сёння тут, а заўтра ў другі кут. Апанасавай дзядзіне прывітанне. Скажыце, што ён жывы, як у бога за дзвярыма".

Апанас і яго таварыш
*„Нябеснае цела"*.

13|VII 1929 года.

— Апанас, на, падпішы.

— Чаго-б я з'еў, га?

— Ты не забыўся яшчэ. Ха-ха-ха. А і сапраўды есці хочацца.

Апанас вычэрчваў літары.

Раптам чыйсьці старэчы голас ззаду іх запытаў:

— Што мудрагеліце тут, га?

Апанас знянацку здрыгануўся ад спалоху.

— Ат, бога малюем,—пажартаваў Васька, убачыўшы старога пастуха, што ўчора быў з пугаю.

Стары прысеў на зямлю, аж трэснулі старыя косці ў дзе
— А ліха на іх, у шкоду папляліся,—дзед, крэкчучы, пач
уставаць.
— Дзедка, я адвярну, дайце пугу.
Апанас пабег.
— Адкуль ты, хлопча?—запытаўся дзед у Васіля.
— Я? Я прыехаў з Амерыкі на зялёным веніку, венік разл
маўся, а я тут застаўся,—залапатаў Васіль.
— Га, ці чулі вы такую плёш.
Дзед засмяяўся, пакруціў галавою.
— Ай, шаляніцы. Як цябе завуць?
— Нябеснае цела.
— Адкуль твой хаўруснік? Так значыць вы ваякі?
— Эге, дзедка, самі оныя і ёсць.
„Баламуты, блазнота",—падумаў дзед.
— Можа дзедка закурыць мае?
— Не куру чортавага ладану, мой унучак. Есці маю, бадай
хочаце, я ведаю... Сала ёсць у мене, але крыху гаркаватае, цяпер
жа лета. Падскварыць трэба.
Дзед развязаў кайстру. Васька пабег да Апанаса, дзе то
ляскаў пугаю каля кароў.
Калі яны сядзелі ля агню, елі спечаныя скваркі сала, дзе
апавядаў:
— Стары Балаба—бывалы чалавек,—гэта ён пра сябе пачаў
—Семдзесят восем год адлічыце, дзеткі, а гавяду яшчэ пас
Старыя людзі моцныя былі, як тая сівец-трава: стары-сухі, а н
верылі, і каса не бярэ. Я пражыў дзве вялікія змены, а д
трэцяй мусіць не дажыву...
...А хацелася гэтага самага—комунізма—пабачыць. Вельмі
баюць, яно добрае. Надоечы ў нас былі брыгадзёры з горад
наконт калгасаў усё... многа чаго казалі, і да мяне старог
Балабы з павагаю кажуць: „Дзедушка, за кароўмі будзеш хадзіц
за сваімі, калгаскімі".
...Бывала ад Шкуратовіча (так пана звалі) дзевяноста шту
пасвіў. Каб за што было, за пачку дражджэй і мукі на булку
У гэтага дзеда Рыгора Балабы знаёмых на ўвесь свет. Вось вы
ўчора гутарылі пра Банэда з Мызы, я-ж яго ведаю.
...Ого-го, гэта гадзюка. Майго сына забілі, усё ён шэльма.
Рашыць яго даўно трэ' было. Як і бацька яго, бывала, пры
прыгоне пану боты лізаў. Мінуўся прыгон, халера яго не ўзяла,

сам панам стаў. Больш паноў зрабілася. Слязмі бядняцкімі ды крывёю нажыліся. Дзед Балаба ўздыхнуў. Худыя грудзі чуць падняліся ад уцягнутага паветра.

— Эх-хх-ее, час прышоў, чужое дабро праз бок вылазіць. І добра, што адбіраюць.

Апанас з Васькай пераглянуліся, дагадаліся, што дзед чуў учора іх гамонку.

— Наце яшчэ, мо‘ вам у жадобку гэта,—і дзед Балаба выняў яшчэ кусок сала, раскроіў, падаў хлапчукам.

— Анодысь казалі,—пачаў далей пастух:—згарэла аж поўмызы гумен. Не пашэнціла мызаўцам у калгасе.

— Ай,—закрычаў Апанас, спляснуўшы рукамі, і сала звалілася ў агонь.

— Ага, Афонька, а ты яшчэ баяўся ліст пасылаць. Вось і без цябе дурні знайшліся. Эх, кулаччо! Васька зморшчыў лоб са злосці.

Дзед Балаба здзіўлена глядзеў на хлапчукоў. Хвіліну памаўчаўшы, пастух запытаў:

— Вы з вялікай Мызы, га?

— Ён, аболтус гэты,—Васька паказаў на Апанаса.

— Чый ты, хлопча? Я людзей там многіх ведаю.

— Дзядзіны Прузыны.

Дзед зморшчыў лоб, прышчурыў вочы, пачаў успамінаць мызаўцаў. Аблезлую ад сонца сваю сівую шапку ссунуў на бок галавы, выкасаў сівыя валасы, падобныя да колеру шапкі.

— Прузына, гэта мусіць старога нябожчыка Еўдакіма дачка, што пашла замуж за дамакрата Саўкавага ў часе вайны... Калі так, то я ведаю іх. Гэта-ж раскольнікі былі, а не хлопцы. Яшчэ Саўкаў брат паліў панскія маёнткі, то на катаргу саслалі ў Сібір. Яго племяшы—то ўжо ў рэволюцыю былі партыйныя.

Ого, Пуханы—вядомае прозвішча.

Пухан Ануфры зямлю парыць на кургане. Вунь дзе.

Дзед паказаў пугаўём на жоўты ўзгорак, што відзен быў за глыбокай дарогай, ля зарасніку.

Балаба гаворыць далей:

— Яшчэ я ім яму капаў, ды сцягваў...

— Звозілі тады іх, бітых, — сотні цэлыя былі мерцвякоў. І чаго не перабачыў я на сваім вяку. Охо-хо.

Дзед закашляўся, выплюнуў сліну. Кашляў ён доўга.

---

## ВАРТАВЫ

1.

...І заціхлі асіны спяваць.
Не калышыцца нават трава.

Месяц ціха плыве над ракой,
А на сэрцы такі неспакой.

А турботныя думкі крыляць:
Там... не дрэмле паручнік—паляк.

Вартавыя мяжу сцерагуць,
Не прайсці табе, вораг, праз луг:

Справу ведаем добра сваю—
Мы вартуем Совецкі саюз.

Хто-ж там, воддаль, на ўскраі лагчын,
Ціха ходзіць у цемры начы?

Рассяваецца мутны змрок.
Мітусіцца у мораку зрок.

Поўнач толькі. Далёка дзень.
Па кустах падпаўзае цень.

Гэта крадзецца вораг-шпік,
Але востры совецкі штых.

— Стой!.. Страляцьму... Рукі ўверх...
Цень замёр між кустоў на траве.

2.

Едзе Яська на шэрым кані,
Ўспамінае геройскія дні,

Як ён летась у змроку начы
На мяжы за шпіёнам сачыў.

Камандзір гаварыў яму так:
„Тут шпіён, а на вёсцы кулак“.

Вартаваў Ясь мяжу СССР.
Ураджай ён вартуе цяпер.

Добрым пылам імжыць імжа,
А на полі шуміць ураджай,

А на полі, як згледзець, ільга,
Жыта зжатага семдзесят га.

Як жывыя, стаяць снапы.
Яська знае, што вораг не спіць...

На лагчыну ўтаропіўся зрок,
На згатоўцы берданкі курок.

Злодзей кінуўся к лесу бягом,
Але Яська дагоніць яго.

Але выстрал берданкі, як гром,
Устрывожыць яго нутро.

За палямі шапоча бор.
Выстрал. Вораг стаіць, замёр.

А як месяц уранку пагас,
Яська злодзея вёў у калгас.

---

## КАЛГАСНАЙ ВЯСНЕ

Ты прышла раўчакамі, праз лужыны,
Палілася вадою са стрэх,
Учыніўшы расправу над сцюжамі
І пакрыўдзіўшы здорава снег.

І зіма, як жанчына, зарумзала—
Слёзы цёплыя сыплюцца з хмар.
Ты прышла, каб зялёнаю блузаю
Упрыгожыць палеткаў абшар.

На ўзгорку чарнеюць праталіны,
Хутка тут зарунеецца рунь.
Шлях твой працаю нашай ухвалены
Акіянам мазолістых рук.

Ты прышла маладухай харошаю,
Як праз сон, ты прышла ў калгас,
Рассыпаешся сонца парошаю
І бадзёрыш, і радуеш нас.

Разбудзіла прасторы ты песнямі,
Загадала ты сонцу:
— Зважай!..
Намі мэта твая будзе здзейснена,
Каб здабыць на палях ураджай.

І таму нас прыход твой і радуе,
Свой запал мы табе аддамо.
Хутка выйдзем у поле брыгадамі
І пакажам і сілу, і моц.

Хутка праца пачнецца ударная,
Трактарамі абудзім зямлю.
Дык-жа будзь ты, вясна, ураджайнаю,
Узрасці нам, вясна, збажыну.

Ты прышла раўчакамі, праз лужыны,
Палілася вадою са стрэх,
Учыніўшы расправу над сцюжамі
І пакрыўдзіўшы здорава снег.

---

## ВЕРШЫ ПРА ТОРФ

I

Ты глянь на вялікі
на гэты абшар:
Спрадвечная багна,
спрадвечны імшар
Мяняе аблічча—
балотную шыр—
У працы рабочых,
у гуле машын.
Сталёвы, магутны
прышоў да нас век.
Збудован завод
на балотнай дрыгве.

Дзе гразлі зубры,
і гайсалі вятры—
Паўсталі будынкі,
павеці,
шатры.
Ударная праца,
вялікі напор
З глыбінь здабывае
на топліва торф.

Становіцца чорным
балота наўкол,
Рыдлёўкі пакорна
ўразаюцца ў дол.
Імклівыя стромай
у сінюю даль
Бяжыць па канавах,
гамоніць вада...

Калейкай імчыць
ваганеткі цягнік...
Такія прыгожыя,
нашыя дні!

І хлопцы клянуцца:
— Таварыш камбрыг,
Мы будзем змагацца...
спяваць і тварыць.

II.

Наша праца—
наша ўцеха...
Дык збірайся-ж,
дружны хор:
Гойкнем песню,
няхай рэхам
Адгукнецца
сівы бор.
Хай краіна
скрозь пачуе
Нас, змаганцаў
маладых,
Як балота
мы руйнуем,
Як будуем
гарады.
Хай да сонца
загаворыць
Наш асушаны
прасцяг.
Гэй-жа, хлопцы,
гойкнем хорам,
Узвівайся
песні сцяг!
Так праходзіць адпачынак,
Зноў рабоце—поўны ход...
Запішы-ж і нас, краіна,
У пачэсны свой блокнот.

г. Менск

## СТАРАЯ ДОШКА

(Апавяданне)

1.

За АГАРОДАМІ, дзе пачынаецца поле, стаяла Лаўрэнава гумно. Гумно было пастаўлена вельмі даўно, яшчэ Лаўрэнавым бацькам. За свой век Лаўрэн уведаў усе бярвенні, усе шчыліны ў гэтым гумне. Яно з здаровага, смольнага бярвення даглядалася добра, да самых гэтых апошніх год было яшчэ моцнае.

Вясною ў трыццаць першым годзе Лаўрэн стаў калгаснікам і гумно яго таксама стала калгаснае.

Ад Лаўрэнавае хаты яно стаіць наводдалек. Калгас яго разбудаваў. Дасталі адну сцяну і прыбудавалі там зрубу яшчэ ў два разы столькі-ж. Цяпер будыніна стала вялікая. Але стары зруб Лаўрэнаў захаваўся на месцы. Калі разбудоўвалі гумно, саламянае страхі не чапалі: Лаўрэн ад самае вайны ўсё збіраў кулявую салому, каб перакрыць гумно. І перакрыў ён яго незадоўга да таго, як стаў калгаснікам.

Такім парадкам у самым гумне, пад страхою, дзе было верхняе бервяно сцяны, асталася нечапанаю адна рэч, якая заўсёды будзіла шмат успамінаў у Лаўрэна.

Яшчэ ў дваццаць шостым годзе, калі Лаўрэнаў сын быў яшчэ комсамольцам, ён павёў у хаце агітацыю, каб былі выкінуты з хаты іконы. Агітацыя Лаўрэнаваму сыну ўдалася: нельга сказаць, каб Лаўрэн быў вельмі багамольны, а за вайну і рэволюцыю ён яшчэ больш растраціў сваю малую веру ў бога.

На покуці ў іх было не вельмі шмат ікон: святы Мікалай, Юрый Пабеданосец і яшчэ сёй-той з святога кодлішча. А на самой покуці была моцна прыбіта двума крукамі тоўстая і моцная дошка без рамы: на гэтай дошцы намалявана была нейкім брадзячым багамазам (невялікім майстрам) багародзіца. Калі Мікалай і Юрый без усякае затрымкі пашлі былі з хаты на гару, дык багародзіца яшчэ некалькі дзён аставалася ў хаце.

Справа была так:

— Можа-б гэтая няхай асталася,—сказаў Лаўрэн сыну.

— Чаму?—запытаў сын, здзіўўшыся такой раптоўнай змене ў бацькаўскім настроі.

— Я табе скажу... Але можа ты і не зразумееш, ты малады. Я табе скажу, няхай яна можа астанецца ў хаце.

— Чаму?

— Бо яна даўно вісіць у хаце (раптам Лаўрэн выпраставўся на ўвесь свой рост, захваляваўся і павысіў голас).—Калі твая маці ўмірала, яна малілася на гэтую ікону. Ты думаеш, я веру ў гэтую ікону або ў гэтую багародзіцу. Можа і маці твая не мела веры ў яе, не вельмі была багамольная. Але я табе скажу—з беднасці і з гора яна памерла, з беднасці і з гора яна і малілася. Ты думаеш, ёй лёгка было ўміраць і лёгка было жыць? Не лягчэй ёй было жыць, як і ўміраць. Яе лячыць трэба было, а за што я мог яе лячыць, калі нават здароваму есці не было чаго. Ты сам-жа бачыш, як ты гадаваўся.

— А ты думаеш, што ад гэтага жыцця багародзіца ці ікона выратуе? Калі хочаш іначай жыць, дык усе сляды трэба сцерці ад усяго таго, што нам жыць не давала.

— Дык я-ж табе кажу, што тут не ідзе гутарка пра веру якую-небудзь, а пра тое, што калі я гляну на гэтую аблупленую дошку з багародзіцай, дык як мяне нажом нехта па сэрцы скрабяне: от-так самога сябе і сваю сям'ю з самых пялёнак бачу.

Лаўрэн падумаў і яшчэ сказаў:

— Ведаеш што, я сам яе вынесу.

Сын пашоў, а Лаўрэн нешта думаў, стоячы каля стала. А праз поўгадзіны ён зняў з крукоў дошку з багародзіцай і панёс з хаты, але не на гару, а ў гумно. Там ён доўга глядзеў, куды-б заправіць гэтую прыладу, а нарэшце стаў на перавернeную кадушку і падлажыў ікону пад страху—малявідлам угару, а тым бокам, што быў пры сцяне, уніз,—так што зусім не відаць было, што гэта ікона, а так сабе апынулася пад страхою старасвецкая моцная дошка, тоўстая з смольнымі кантамі. Адзін кант на некалькі хвілін прыкаваў да сябе Лаўрэнаву ўвагу: шмат гадоў ён быў відзён у хаце, і да таго быў знаёмым Лаўрэну, што абуджваў у ім шмат успамінаў.

Шмат чаго пераажыў Лаўрэн за свой век. Бывала хлеба няма—вялікае гора ў хаце—усе галодныя, злосныя, надзьмутыя,—а кант гэты тырчыць на хату. Самое багародзіцы не відаць

з іконы, бо яна ў цяні, а кант добра відаць. Нават калі і маліўся Лаўрэн або яго нябожчыца жонка, дык і то найбольш траплЯўся ў вочы гэты кант, а не багародзіца.

А то раз за невашта ўшчунуў Лаўрэн свайго хлапца, гэнага самага цяперашняга комсамольца. Той пачаў плакаць, Лаўрэну шкада стала хлапца, і зазлаваў ён яшчэ больш ні то сам на сябе, ні то на каго іншага, а хутчэй за ўсё дык гэта на самое жыццё, у якім і есці няма чаго, і рабіць цяжка трэба, і дзяцей ушчуваць прыходзіцца.

— Каб ты згарэла такое жыццё!—плюнуў Лаўрэн і падняў твар к сцяне—а там кант ад іконы тырчыць, а за кантам таракАны відаць.

Брудна, цесна, хоць на свеце не жыві. І гэты кант з дошкі, як быццам-бы ўсюды ўмешаны, кроку без яго чалавек не ступіць. Так і пражылося шмат год.

Цяпер, заткнуўшы гэтую дошку з такім знаёмым кантам пад страху ў гумне, Лаўрэн паглядзеў на гэты кант, узяў у рукі граблі і пачаў падграбаць к сцяне салому.

2.

Гэта ўсё было раней. А цяпер аднойчы было вось што.

Была гарачая пара малацьбы. Яшчэ толькі што ўзышло восеннае сонца, а каля гумна збіраліся людзі. Там стаяла малатарня і трактар. Дзесьці за гумном чуваць было, як пастух гоніць каровы, а яшчэ далей чуліся аратыя на полі. Сонца ўсходзіла ясна, на ім залаціліся першыя жоўтыя лісткі на клянах.

Брыгада дзяўчат складала каля малатарні снапы, падносячы іх з гумна.

Прышоў старшыня. Ён убачыў, што ўчарашні падавальшчык снапоў у машыну Лаўрэн ужо стаяў на месцы.

— Ну як?—сказаў старшыня замест прывітання.

— Нічога,—адказаў Лаўрэн.—Трэба сёння ўсё скончыць.

— Няйначай трэба,—сказаў старшыня.

— Калі будзе сёння ісці так, як і ўчора, дык і скончым.

Аставалася яшчэ хвілін тры да пуску малатарні. Брыгадзір спешна далісваў няскончаныя ўчора вылікі працадзён.

— Колькі на мяне прыпадае за ўчарайшы дзень?—запытаў Лаўрэн.

Брыгадзір глянуў у спіс.

— Учора вы выпрацавалі два з палавінай працадні,—адказа
ён Лаўрэну.

— А колькі ў цябе, дзядзька, наогул ужо працадзён?—запы
таў хтосьці.

За Лаўрэна адказаў старшыня, які добра ведаў Лаўрэнав
працу. Ужо шмат часу прайшло ад таго, як Лаўрэн атрыма
ударніцкую кніжку. Калгас быў напярэдадні размеркавання ўра
джаю. Лаўрэн рабіўся адным з самых заможных калгаснікаў
столькі выпрацаваў ён працадзён.

— Колькі чалавек прышло?—пытаў старшыня.

— Прышло трыццаць два,—адказаў брыгадзір,—не лічачы
трактарыста і машыніста... Ну, не падкачай, хлопцы, сёння трэба
скончыць усё.

Машыну пусцілі. Грукацеў трактар, пыл узнімаўся над мала
тарняй, аж вецер гуў у рухавай саломе. З-пад машыны густ
ішло зерне.

Так работа ішла можа з поўгадзіны. Але была нейкая няспраў
насць. Першы заўважыў гэта машыніст. Ён крыкнуў на вуха пр
гэта трактарысту, але той сам ужо бачыў.

Пас, што ішоў ад трактара да машыны, пачаў слабець. Прай
шло яшчэ хвілін пятнаццаць, і работу спынілі. Пачалі аглядаць

— От тут,—сказаў трактарыст:—вось дзе яно. Тут пад трак
тарным колам зямля мяккая і яно асядае.

— Тут патрэбна дошка падыспад,—сказаў машыніст.

— Вось табе, чаго-ж ты маўчаў?—пачуўся голас.—Трэба был
раней агледзець усё.

— Змітрок,—сказаў машыніст да аднаго з хлапцоў:—збегай
хуценька, ды пашукай дошкі якой-небудзь.

Паблізу дошкі не было.

— Вось тут нейкая дошка,—пачуўся голас з гумна.

— Давай яе сюды.

— Пад страхою, высока, трэба дастаць.

— Ну, дык даставай.

Праз поўхвіліны прынеслі тоўстую дошку. Яна якраз прышлася
пад кола. На адным баку ў ёй нішто штосьці намалявана было
нішто так штосьці напэцкана—адным словам цямнейшы быў бок.
Але лішне не прыглядаліся—не было часу.

— Пускай хутчэй!—закрычаў Лаўрэн, стоячы на сваім месцы.—
Цэлыя горы снапоў каля мяне.

Праз некалькі момантаў ён ужо кідаў снапы ў малатарню

Трактар грукацеў усім нутром. Пас ішоў добра. Барабан у малатарні аж гуў увесь. Лаўрэн усё кідаў снапы ў машыну. Барабан кашляў, спяваў.

Роўна, нібы з мяшка, ішло зерне. Здавалася, пражорліваму барабану ўсё мала снапоў. Накіды саломы выраслалі навокал малатарні. Людзі на ёй з вілкамі паднімаліся ўсё вышэй і вышэй. Фурманкі падвозілі снапы. Мяшкі з зернем адвозілі да свірна.

3.

Малаціць скончылі за поўгадзіны да захада сонца. Скончылі ўсё, ніводнага снапа не засталося.

Сонца стаяла над лесам, прыгожа цмеў вясёлы восенны дзень. Здаровым халадком тхнула з паплавоў.

Утомлены Лаўрэн пакінуў сваё месца на малатарні. Выдзьмухваючы з вусоў пыл, ён паволі падыходзіў к трактару, так-жа паволі даставаў з кішэні партабак з тытунём. Мужчыны, курачы, садзіліся на жардзяную загарадзь, каб перадыхнуць адразу пасля работы. Дзяўчаты выпыльвалі свае вопраткі.

— Што, не казаў я, што скончым,—гаварыў Лаўрэн, тупаючы каля трактара.

Раптам ён адступіў на поўкрока далей і прыгнуўся к зямлі, штосьці разглядаючы.

— Што ты там убачыў?—пачуўся голас.

— Два з палавінаю працадні,—сказаў брыгадзір, калупаючы алоўкам у паперы.

— Каму пішаш?—чуўся голас.

— Дзядзьку Лаўрэну.

Лаўрэн адагнуўся ад зямлі, як-бы забыўшыся на тое, што нядаўна разглядаў там. Ужо само слова „два з палавінаю працадні“ інтрыгавала яго, так у яго ішла праца, што заўсёды за дзень ён выпрацоўваў гэтулькі.

У гэтую хвіліну ён думаў: малацьбу скончылі, заўтра, мусіць, ён пойдзе зябліць. І лапцей ніякіх няма ў яго, а за плугам хадзіць па раллі ў ботах—дык ботаў шкода. Праўда, боты новыя, моцныя, на малатарні стаяць добра ў іх, але таму, што яны новыя і добрыя, дык іх і шкода.

— Дзядзька Лаўрэн цяпер самы багаты ў нас будзе,—сказаў брыгадзір, седзячы ўсё на саломе і перагортваючы спісы.—Ты-ж цяпер, дзядзька Лаўрэн, ведаеш, колькі атрымаеш за свае працадні ў гэтым годзе?

— Ну колькі?—сказаў, смеючыся, Лаўрэн.

— А так, прыблізна кажучы...

Брыгадзір назваў лічбу.

— Дык гэта, значыцца, больш як летась?

Лаўрэн адышоўся ад саломы далей: ён курыў і баяўся, каб іскра з папяросы не ўпала ў салому.

Ён думаў, ужо ў гэтую хвіліну, не слухаючы, пра што гудуць галасы каля брыгадзіра. Ён выразна сумаваў аб адным: чаму так рана памерла яго жонка? Вобраз гэтае пакутнае жанчыны стаяў у ваччу яго. Яна памерла ад гора, гэтая пакутная жанчына, молячыся на цёмную дошку на покуці. А ён цяпер радасны, як памаладзеў без усялякіх цёмных дошак на покуці, без баязні, што заўтра яму не будзе чаго есці, стаіць цяпер пасярод людзей, без чорнага клопату і без цяжкіх турбот. „Мне будзе добра— калі ўсім будзе добра. А калі ўсім будзе дрэнна, і мне будзе дрэнна. Дык няхай-жа будзе добра ўсім... Чаму не жыве яна цяпер, калі ўжо ўсё гора мінулася, калі ўжо жыццё ідзе гэтак, што не трэба думаць і выдумляць, на якую сцежку ўзыйсці, каб не загінуць". А ісці ўжо ёсць як—па адной шырокай дарозе.

Вочы яго бачылі перад сабою гэткі знаёмы кант у дошцы на зямлі.

Калі прыходзілася не жыць, а гніць, тады гэтая дошка вісела на покуці. А цяпер?..

Кант у гэтай дошцы мучыў яго: ён абуджаў страшны смутак: чаму не дажыла да сёння замучаная жыццём тая жанчына, замучаная тым жыццём, што было акружана вось гэтакімі дошкамі на покуці і ўсім падобным.

Лаўрэн адвярнуўся, каб не бачыць гэтае дошкі, што за дзень работы напалову ўехала ў зямлю.

Ён ненавідзеў усёй істотай сваёю гэтую рэч, з якою было звязана такое балючае ўспамінанне. Ужо сама гэтая дошка ўставала перад ім, як адзнака былога гора.

Ён спешна пашоў да ўсіх і сеў поплеч з брыгадзірам на саломе.

## ШЫНЕЛЬ

Ты вісіш на сцяне,
палкавая лахматка,
Пра цябе кажа мне
мая родная матка:

„Што не знімеш яго?—
павукоў завядзеш".
— Не кажы, гавару,
час пагрозны ідзе.

Апрану я шынель,
і вінтоўку вазьму,
Будзе холад і снег,
Ї вятры будуць дзьмуць.

Я пайду ў шынялі
за Советы у бой,
Як хадзілі калісь
у дваццатым, вясной.

Я пайду, каб раслі
рыштаванні у нас,
Пашыраўся завод,
узмацняўся калгас.

Каб гудзелі гудкі,
гаманілі палі,
Каб шчаслівыя ўсе
нашы людзі былі.

Ї спакойна сядзіць
мая маці тады,
На шынель мой глядзіць,
ўспамінае гады.

## КАВАЛЕРЫСТ

Стары таварыш—лёгкі конь—
даўно, даўно ў стэпу аблез,
а ён над бурнаю ракой
узвёў магутны Днепрагэс.

Пазбыты банды і прыгон,
над краем занялася рань,
змагаецца спарта ён
за процанты, за промфінплан.

Калі-ж праз морак, дым і гар
у цэх паўзе прарыў змяёй—
брыгадамі стары змагар
вядзе ўдарнікаў у бой.

Пасля праз холад, ноч і снег
ён едзе шэфам на сяло,
і казкай стаў яму шынель,
вінтоўка, шабля і сядло.

Але жыве кавалерыст
і ўспамінае ён штодня
баі, паходы, куляў свіст
і любага свайго каня.

І вось, калі граніц слупы
памкнуцца ворагі падрыць,—
агнём змагання ускіпіць
стары баец-кавалерыст.

Другога ён каня тады
напоіць чыстаю вадой
і побач з сынам маладым
памчыцца сокалам у бой.

в. Жгунь,
Гомельскі раён

## ВЫНАХОДЦЫ

(Нарыс)

Калі апошнія гукі заводскай сірэны заміраюць у вялікіх карпусах цэха, напоўненых да гэтага звонам і грукатам жалеза і галасамі людзей, павольна, як-бы з неахвотаю наплывае цішыня. Часамі толькі яшчэ некаторы час дзе-ні-дзе чуюцца апошнія стукі матора, дзе-ні-дзе загрукаціць дэталь, якую кладуць у парадак па зборцы машыны.

Ля металёвых шкілетаў несабраных машын асядае цішыня, і кожны шорах гулка рве яе.

Ля дзвярэй, ля чорнага сілуэта штамповачнага прэса, варушыцца нечая постаць. Чалавек, у запырсканай машынным маслам спецоўцы, без шапкі, старанна аглядае машыну, паварачвае ручку, для нечага вымярае даўжыню жалезнага валіка і, зазначыўшы пальцам размер, падносіць сталёвы метр бліжэй да акна.

— Такі 64, а не 61,—сам сабе гаворыць ён, і вочы свецяцца агеньчыкам.

На верстаку ляжыць шапка і разгорнены блокнот, з закладзеным між лісткамі алоўкам. Невялікія лісткі блокнота густа спісаны дробным почаркам. Месцамі лісток, быццам геаграфічная карта, жаўцее плямай пакосту.

Міцька старанна запісвае лічбы, і яго твар прымае сур'ёзны выгляд; толькі крыху ад вялікага старання адвісае ніжняя губа, за што дзяўчаты часта кпяць з яго,—кпяць, але-ж усё-ж часам каторая, бы ненаўмысля, кідае цікаўна вокам у бок Міцькі Новікава.

Ён яшчэ зусім нядаўна працаваў чорнарабочым у кузні, прыбіраў цэх, адвозіў паасобныя часткі да камнедрабілак, а цяпер— па яго просьбе—перавялі яго ў слясарна-зборачны цэх і паставілі да ціскоў. Лічылі яго за чалавека, які ўвільвае ад работы, не любіць працаваць. Яго неаднаразовыя просьбы перавесці ў цэх, паставіць к ціскам майстар не браў на ўвагу. Ён лічыў,

што ў брыгадзе слесароў ён будзе „гультая ганяць", але пасля апошняга выпадку (Міцька ледзь не пакалечыў руку пры штамноўцы звенняў да ланцугоў „галя") стары майстар уважліва пачаў прыглядацца да яго і нарэшце даў згоду перавесці ў цэх.

Тут ён хутка асвоіўтаўся з работай, і вось цяпер, ужо праз два тыдні, стаіць на шаброўцы падшыпнікаў каля заліўкі бабітам. А работу робіць някепска. Шабер спрытна з віскам ходзіць у яго руках, і часта майстар падыйдзе да яго, асцярожна загляне праз плячо і з задавальненнем адыйдзе.

Неяк раз, калі ён адсякаў на прэсе кавалкі жалеза, яму ў галаву прышла думка: „а што калі з другога боку дзіркі, адкуль валяцца на зямлю кавалкі жалеза, прырабіць карытца на роліках і з боку калясцо, якое пры дапамозе валіка будзе прасоўваць вал. Ручная падача на прэс, а таксама вымерка даўжыні вала адбірае шмат часу. Вось, каб прырабіць гэтую штуку, дык можна і час зберагчы, і грошы".

Гэтая думка моцна ўелася ў галаву Міцькі Новікава і не давала яму спакою.

Запісаўшы патрэбныя лічбы, ён паклаў паперы ў кішэню і накіраваўся да выхаду. Ля дзвярэй яшчэ раз азірнуўся на прэс. Невялікая машына чорным сілуэтам выдзялялася на белым фоне сцяны. Міцькавы вочы міжволі спыніліся на чырвоным палотнішчы плаката, вывешаным піонерамі заводскага атрада:

„Ніводнага рабочага без рацыяналізатарскай прапановы".

Выходзячы на двор, спаткаўся з вялікай афішай, што заклікала на канцэрт увечары.

„Пайду"—думаў Міцька, і вышаў на двор.

Вясёлыя малаткі кацельшчыкаў звонка гаварылі з жалезнымі барабанамі, і рэха гулка разносілася па заводскім дварэ.

Да-ду-ма-еш-ся, да-ду-ма-еш-ся,—нібы выстуквалі яны, і, пад уплывам гэтага говару жалеза, ён прайшоў з палову двара, як успомніў, што ідзе без шапкі, і хутка пабег у цэх.

Ногі, абутыя ў боты, шпарка ішлі па паламанаму дашчатаму тратуару, распырскваючы ґразь.

Імглісты восенны дзень павольна заліваецца вячэрнім змрокам. З боку завода раз-по-раз маланкай успыхваў фасфарычны бляск і, нібы спужаўшыся асядаўшай ночы, у момант знікаў.

Вецер, поўны вільгаці пасля нядаўнага дажджу, непрыемна прасочваўся праз вопратку і працяглым роўным гудам бег па правадах.

Міцька думаў. У ваччу ўсю дарогу стаяў штамп. Пярэдняя астка, бы расчынены рот, здаецца вось-вось загаворыць чалаечым голасам. Новікаў не заўважыў, як насустрач яму ішлі зве дзяўчыны. Яго нага, абутая ў цяжкі бот, чаўкнула ў лужыну, аляцелі пырскі. Меншая з дзяўчат спуджана адскочыла ў бок.

— Хуліган,—сказала яна, але раптам, пазнаўшы Міцьку, спыілася.

— А я думала...—сказала яна.—Ідзе і воч не падыме. Напукаў толькі..

— Ты, Міцька, у клубе будзеш?..

— Не ведаю. Можа пасля падыйду.

— Прыдзі,—сказала яна.

* * *

Цмянае святло ад лямпы разганяла змрок у кватэры. На белай тынкаванай сцяне, з адваліўшайся мясцамі вапнай, адкуль выглядалі накрыж прыбітыя лучынкі, была прыбіта паліца, заставленая кнігамі. У куту стаяў акуратна засланы ложак з двума падушкамі. Збоку, ля акна, стаяў стол, засланы цыратай.

Палову стала займае нейкая мадэль. Побач у беспарадку валяліся шрубачкі, калёсцы, шасцярні, абрэзкі жалеза.

Памыўшы рукі і твар халоднай вадою, Міцька падышоў да стала, уважліва прагледзеўшы запісаныя лічбы, пачаў круціць драўляную ручку калясца мадэлі. Жалезны валік паслухмяна пасунуўся на роліках па карытцы, адзін бок якога быў размечан на міліметры.

Але, прапоўзшы невялікую адлегласць, стаў. Калясцо, не гледзячы на Міцькавы патугі, упарта не жадала круціцца. Ён у трэці раз пачаў разбіраць амаль гатовае прыстасаванне.

— Што тут за ліха,—разважаў Міцька, адымаючы калёсца ад валіка.—Можа заела?

Дастаўшы з паліцы бутэлечку з машынным маслам, пачаў густа змазваць дэталі, праціраючы іх анучай.

Ля дзвярэй пачуліся лёгкія крокі, нехта мацаў дзверы, шукаючы клямку, і нарэшце адчыніў іх. Міцька падняў галаву.

— Ты, Міцька, яшчэ не адзеўся?

— Бачыш, што не.

— Дык хутчэй чухайся, а то чакаць часу няма. З такімі тэмпамі і да канцэрта не паспеем.

І, падняўшы руку з гадзіннікам, дадаў:

— Праз гадзіну пачнецца. Кажуць, закуплен вялікі канцэрт. Выдатны скрыпач на скрыпцы граць будзе,—і, сказаўшы гэта, Міцькаў таварыш Мацэйковіч скінуў галёшы ў кут і, на хаду, расшпільваючы паліто, падышоў да стала.

— Што гэта ў цябе за цацкі?—здзіўлена прагаварыў ён, гледзячы на стол.

Хвілінку памаўчаў, а пасля загаварыў шпарка, глытаючы словы з лёгкай усмешкай кпін у голасе.

— Ці ні парашыў ты закінуць слясарную працу, а стаць вынаходцам, выдумліваць розныя машыны ды поўнымі прыгаршчамі заграбаць грошы... ну, выдумаеш, скажам, паравоз новай канструкцыі,—без астаноўкі гаварыў ён:—і на ім будзе красавацца дошчачка з надпісам:

„Вялікі вынаходца Новікаў. Радзіўся ў 1912 годзе, памёр"— даты няма,—з усмешкай скончыў ён, а пасля раптам зусім другім голасам спытаў:

— А ты усё-ж скажы, што гэта такое.

Міцька пачаў тлумачыць свайму таварышу.

— Вось дзе сабака з хвастом схавана,—сказаў Колька Мацэйковіч, уважліва выслухаўшы Міцьку.

— Гэты валік павінен быць міліметраў 5—6 даўжыні, а то нехапае на ўвесь развод. Каб патрэбныя рэчы былі пад рукамі, дык і справа была-б зусім другая, а то пачнеш рабіць, глядзіш— таго няма, другога няма. Трэба рабіць самому альбо на заводзе з адрэзкаў змайструеш у нерабочы час. Вось так складаю, канструірую,—з усмешкай закончыў ён.

Новікаў чуў, што ён не тое сказаў, што трэба, што самае важнае, прычыну гэтую затоіў, не сказаў. І яму спярша хацелася расказаць Мацэйковічу. Пасля раздумаў. А хацеў ён сказаць зусім мала і вось што:

Учора, у абедзены перапынак, чытаючы пратаколы аддзела рацыяналізацыі, Сярожка сказаў: „Той, хто дае прапанову, дык толькі і мае на ўвазе прэмію атрымаць. Ведаю я іх. Факт".

Новікаў, які стаяў побач з ім, павярнуў галаву. Яго вочы заіскрыліся злосцю і абурэннем. Хацеў адказаць яму, але парашыў змаўчаць, бо якраз у гэты момант зараўла заводская сірэна.

Міцьку было прыкра за словы Сяргея. Хіба ён ужо каторы вечар дзеля прэміі сядзіць, як крот у норцы? З-за грошай? Вядома, не. Тут—нешта другое, у сотні раз даражэйшае за дзесяткі рублёў. Не адзін раз, апілоўваючы напільнікам якую-

будзь дэталь, ён адчувае, як яго ахапляе радасць. Здавалася, ыта пад гэтым кавалкам жалеза, пад цвярдыняй метала, хавана нешта такое, што трэба дастаць адтуль.

Галаву поўнілі думкі, што вось гэтая ўтулачка зойме сваё сца ў вялікай машыне, і машына гэтая, бы жывы рахманы ер, пачне рухацца, тахкаць, працаваць. І ў ёй таксама будзе ыць сваім маленькім жыццём зробленая ім утулачка. Ён ведаў, то не ўсе часткі яе дакладна дапасуюць адна да другой, што мат у ёй ёсць непатрэбных дэталей, якія можна замяніць на расцейшыя, і тады з ёю можна будзе проста размаўляць на ты", бо яна стане блізкай і паслухмянай. Вось чаму ён пара-ыў сваімі рукамі змяніць часткова штамповачны прэс, працу а ім зрабіць больш прасцейшай.

Колька зняў паліто, кінуў шапку на ложак і падсеў бліжэй а разабраных частак машыны.

Падкручаны агеньчык у лямпе зайцам падскочыў угару расплыўся мяккім святлом.

— Вазьмі, Коля, крышку, падпілуй набочку гэтае шасцярні, олькі глядзі-ж, асцярожна. На, пілуй.

Колька упёр адзін бок шасцярні ў канец стала, і напільнік з пісклівым бурчаннем пачаў здзіраць непатрэбную таўшчыню.

Міцька пачаў сточваць два валікі, адзеўшы на злучэнні ўтулку.

Стрэлка на гадзінніку, быццам баючыся спужаць работай занятых хлапцоў, ціханька паўзла па чорных лічбах цыфер-блата.

На дварэ, як праз сіта, цэдзіць дробны дождж.

Пад гарой, у доме ўдавы Валодчыхі, праз зачыненыя акеніцы на вуліцу коцяцца гукі гармоні, чуваць гулкі тупат і прыглу-шаныя галасы хлапцоў і дзяўчат.

У горадзе, у клубе, залітым роўным святлом электрычнасці, рабочыя Міцькавага завода слухаюць канцэрт.

А Міцька і Колька не адрываюцца ад мадэлей.

— Працуй Міця,—раптам сказаў Мацэйковіч, адкладаючы ў бок абцугі і выціраючы рукі.

— Чакай, чакай,—з нервовымі ноткамі ў голасе прабурчэў Новікаў, устаўшы з-за стала.

— Крышачку стукні малатком па валіку з гэтага боку, ды глядзі, асцярожна, а то...—прыб'ю,—жартуючы дадае ён.

— Ну, пачынаю, ды асцярожней ты, не навальвайся, а то паломіш, чаго добрага.

Памаленьку, прыкаваўшы зрок у кожны рух дэталей, пача круціць. Валік павольна паплыў.

— А ты, Міця, спрабуй назад на восем міліметраў,—з радасц у голасе сказаў Колька.

Нібы ў адказ на яго просьбу валік паплыў назад, і канец я спыніўся насупроць рыскі на 8.

Абодва глянулі адзін на аднаго, і кожны прачытаў у вача таварыша шчырую радасць. Здаецца нейкая сіла спружыніл дзесці глыбока ў грудзях, і хацелася голасна закрычаць, запец ахопленыя энергіяй, ужо гатовы былі кінуцца ў вясёлы тане як музыка гадзінніка спыніла іх. Хлопцы глянулі на сцяну Дзве стрэлкі зышліся разам у самым версе на лічбе—12.

— Што за чорт, няўжо дванаццаць?—схамянуўся Мацэйкові падносячы руку бліжэй да лямпы.

— Вось табе і на,—працяжна, нібы праз плач, сказаў ён і на вечар не пашлі.

І, закасваючы рукавы, пайшоў да ўмывальніка, дзе ўжо цё мылам рукі яго таварыш.

## ВЯСНА

Ой, у полі
На прасторы
Дзень вясновы
Прамяніст
І блукае
Па-над борам
Вецер—
Шумны гарманіст.
Звон і гоман,
Песні, крыкі...
Ой, вясна,
Вясна ў палёх!
І нябачнага
Музыкі
Льюцца спевы
На мурог.
Хутка, хутка
Ад калгасаў
Раніцою,
На зары,
Нібы коні
На папасы,
Выйдуць у поле
Трактары.
Буйным громам
Трактарысты
Прывітаюць
Шыр палёў,
Дзень вясновы,
Прамяністы,
У кветках
Сонечных агнёў.

## КАЛГАСНАЯ РАНІЦА

Цэдзіць рань малако тумаnoў,
Разлівае ў азёрныя чаркі,
Ападаюць ў прасторы палёў
Срэбна-сінія знічак агаркі.

Цераз лес, паплавы і папар
Ночы змрок пацягнууся ў аддалі,
І пылае на ўсходзе пажар,
Рассыпаючы іскры-каралі.

Трактарысты выводзіць ханя,
Конь-машына варочае глебу...
Эх, радзіма, радзіма мая,
Ты каліськці малілася небу!

І ў маленні прасіла ў багоў
На падмогу нябесную сілу,
І на вузкіх палосах палёў
Рубцавала старую кабылу.

Чуўся стогн: „Ну, падлюга, цягні!“—
І скрыпела саха лемяхамі.
Адцвілі тыя даўнія дні,
Адцвілі на мяжы палынамі.

Ў гучным рокаце рань ядраней,
І смачней скібы свежага хлеба,
І праменні ў палях залацей,
І пульхней рассыпаецца глеба.

І звініць у сявалцы ячмень—
Можа чэрвень пагодлівы сніцца,
Лета цёплага сонечны дзень,
Маладая сяброўка-пшаніца.

І на гектарах тлустай зямлі,
Нібы град залаты ападае,
Засяваюць калгасы палі,
Сваю долю яны засяваюць.

Засяваюць прасторы яны,
Зерне льюць залатою паводкай
Для другой большэвіцкай вясны,
Для ударнай другой пяцігодкі.

г. Смаленск.

---

## УРАДЖАЙНАЕ

За гарой высокай вецер ходзіць, свішча,
Песні запяваюць за гарой высокай...
У зялёным садзе чырванеюць вішні,
Колас набухае ўраджайным сокам.

І шуміць ласкава ў жоўтых хвалях поле
(вынік веснавое працы большэвіцкай).
Буйнае насенне сеялі супольна
Ўдарнікі калгаса, хлопцы й маладзіцы.

Не казалі—цяжка, з радаснай надзеяй
Засявалі поле, колькі было сілы.
І зямля, як маці, шчодра нас надзеліць—
Глянь адно—як буйна жыта ўскаласіла.

І нядарам голас звоніць над лясамі:
— Будзем з белым хлебам зімку зімаваці...
Хутка наша поле ўсцелецца снапамі,
Паплыве у гумны хлебнае багацце.

Будуць у калгасе слаўныя дажынкі,
Будуць чутны песні за гарой высокай.
...І шуміць ласкава жытная чупрына,
Колас набухае ураджайным сокам.

## МОЛАДЗІ

Нашы бурныя дні на-чыку,
Развінайся-ж у маршы, моладзь,
Як сяброўку, вітай за руку
Маладую вясну комсамола.

Станавіся пад ленінскі сцяг,
Набірай большэвіцкага гарту,
Каб на кожным участку жыцця
Ты змагла несці ўзорную варту.

Перашкодамі рук не аслаб,
Прыкладзі і старанне, і розум,
Каб для ворагаў нашых была
Найвялікшаю ў свеце пагрозай.

Падымай сваю веліч сіл,
Уключайся ў агульны наступ—
Будаваць і каваць, і касіць,
І трымаць на лінкоры вахту.

У краіне нямала франтоў.
Будзь-жа, моладзь, у шэрагах першых
На будоўлі дарог і мастоў,
На заводзе, у калгасе, у вершах.

Помні Леніна ясны завет—
Пра навуку ягонае слова,
Бо нам суджана цэлы свет
Збудаваць на разумнай аснове.

Дык заўсёды-ж ты будзь на-чыку,
Развінайся ў маршы, моладзь,
Як сяброўку, вітай за руку
Маладую вясну комсамола,

г. Бабруйск

## ДВА ТАВАРЫШЫ

Іх розны, парознаму лёс спаткаў
(Такое—не нова ў жыцці).
З іх кожны нямала па свеце блукаў,
Каб шчасце свае знайсці.

Адзін быў у Лодзі, звычайны ткач,
Ён там нарадзіўся і ўзрос.
Яго, як і бацьку калісь, напаткаў
Таксама паганы лёс.

Другі быў галоднае вёскі сын
(Ён працы шукаць уцёк),
Ён крыўду спрадвечную ў грудзях насіў
І праклінаў жыццё.

Ён дома пакінуў траіх дзяцей
Без хлеба, абдзёртых зусім,
Знябытую жонку, худую, як цень,
Бяднейшую, мусіць, за ўсіх.

Галодны ён шмат гарадоў абышоў,
І вытаптаў шмат гразі.
І „шчасце" нарэшце сабе знайшоў—
Вугаль пачаў грузіць.

Ён рад быў за гэты мізэрны „дар"
(Бо хто-ж яго возьме дзе?),
Але нечакана прышоў гаспадар
Суровы, як зімні дзень.

Ён працу на складзе сказаў спыніць,
І думаў зусім не шмат:
— Я вымушан склад пакуль што зачыніць,
Прыбыткаў з яго няма...

І вось ён пануры у свет ідзе,
У вочах страшэнны змрок:
Ізноў ён успомніў галодных дзяцей,
І боль апаліў нутро.

Бадзяўся ён доўга і ўночы, і ўдзень,
А працы нідзе не было...
Зямля прытуліла яго дзяцей
У курганах за сялом.

Знябытая жонка, як труп жывы,
Пашла жабраваць у свет,
І ногі ёй раніў дарожны жвір,
І значыўся кроўю след.

Ён беламу свету паслаў праклён,
Упаў назаўжды ў забыццё,
Апошнюю страціў надзею на лёс
І скончыў сваё жыццё.

А першы, што быў па прафесіі ткач,
Што ў Лодзі радзіўся і ўзрос,
Іначай і голад, і смерць спаткаў—
Без жалю, тугі і слёз.

Ён выйсця ў смерці сабе не шукаў,
І голад інакш пазнаў:
Ён лёсу тады загадаў:
— Чакай, мы зробім зусім інакш.

Да д'ябла і слёзы, і дзікі праклён,
Без гэтага выхад ёсць:
Купляецца права на лепшы лёс
У класавых толькі баях.

Ішоў ён... Мільёны тады ішлі
Прыняць баявы парад.
І людзі крычалі:
— Далоў фашызм!..
— Крывавы далоў урад!..

Ён смела спаткаў паліцэйскі напад
(Бо бачыў не першы бой),

А стрэл прагучэў, і ён упаў
З прастрэленай галавой.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . .

У гісторыі мужным не той праслыве,
Хто ставіць сабе крыжы,—
Гісторыя мужным таго назаве,
Хто ўмее змагацца і жыць.

г. Менск

---

С. ПАЎЛОЎСКІ

## ЗНАЁМЫ ЧАЛАВЕК

(Апавяданне)

РАНІЦА. З усіх куткоў горада чуліся прарэзлівыя гудкі, якія клікалі на пачатак працы. На дрэваапрацоўчым заводзе таксама прагуў гудок. Там таксама пачалася праца. Разам з усімі стаў на працу і Міхась. Гэта быў яго першы дзень працы на заводзе. Ён быў вельмі малады, ён нядаўна ящчэ вышаў з падросткаў.

Восень. Сонца грэе слаба і свеціць няясна. За сценамі завода чулася восень.

У цэху вокны былі вялікія. Міхась стаяў за працай насупроць акна. Украдкі, каб не адрывацца ад працы, ён кідаў позіркі на акно. За акном было неба, і на ім верхавіна жоўтае бярозы. Вецер пагойдваў дрэва.

Міхась думаў пра вёску, паглядаючы на неба і бярозы. З вёскай у яго звязаны былі цяжкія ўспаміны. Ён яшчэ быў зусім дзіця, калі была акупацыя. У роднай вёсцы ён асірацеў тады. Акупанты забілі яго бацьку. Маці вымушана была забраць яго і пайсці ў горад шукаць працы. Там яна кінула ўвесь свой бядняцкі набытак, бо каб яна гэтага не зрабіла, дык яе спасцігла-б такая доля, як і яе мужа.

Што гэта за справы такія былі і ад чаго яны ў іхняй сям'і. Міхась тады не ведаў. Ён толькі бачыў, як маці плакала. Цяпер пра ўсё гэта ён думаў, стоячы на працы.

Так ішла праца некалькі гадзін, а пасля прагуў гудок на абед. Завод заціх.

Сонца хавалася за хмары і доўга адтуль не паказвалася. Узняўся вецер. Бярозавае вецце лупцавала ў акно сваімі канцавінамі. Вецер не сціхаў, аж пакуль не кончыўся абед. Пасля шум ветра прыціх—яго заглушылі зноў гукі завода.

Па цэху прайшоў майстар. Ён спыніўся каля Міхася.

— А ты калі прышоў на работу?—спытаў ён.

— Сёння,—адказаў Міхась, не зводзячы вачэй з майстравага твара.

Міхась так глядзеў на майстра, што той са здзіўленнем адвярнуўся, а пасля пашоў далей.

„Недзе я бачыў гэтага чалавека,—думаў Міхась.—Але дзе?“.

Цяпер ужо да канца работы Міхась толькі пра гэта і думаў. Думка не давала яму спакою. Яна была цяжкая і мучыла яго. Як-бы ўсё нутро яго балела ад гэтае думкі. Перад самым канцом працы Міхась успомніў, і яму стала аж страшна.

— Я табе хачу расказаць,—сказаў Міхась свайму таварышу па працы, пасля таго, як яны скончылі работу.

— Што ты хочаш мне сказаць?

— Пра нашага майстра.

І Міхась пачаў расказваць. Ён хваляваўся, ён не мог спакойна гаварыць.

— Хадзем у сталовую, там раскажаш,—казаў таварыш.

У сталовай яны занялі адзін столік.

— Гавары ты спакайней,—зазлаваў таварыш.

— Нашага майстра прозвішча Сіняўскі?—запытаў Міхась.

— Сіняўскі,—адказаў Міхасёў таварыш.

Вось што расказаў Міхась.

Тыя справы, у часе акупацыі, з забойствам Міхасёвага бацькі, Міхась, як мае быць, пазнаў толькі гадоў за тры да прыходу на завод. Было гэта так.

Ён раз ішоў з маткаю праз рынак. Народу было паўнютка. Яны з маткаю ледзь праціскаліся праз натоўп. Дзьмуў адлежны вецер. Снег раставаў. Пад нагамі хлюпала вада; шэрае неба цяжка вісела над зямлёю, здавалася, што яно вось-вось ляжа на горад.

— Бачыш, бачыш,—сказала маці,—бачыш таго чалавека?

— Дзе, які чалавек?—пытаўся Міхась.

— Бачыш, у шэрым пальце?

І яна пашла шпарчэй. Міхась ледзь дагнаў яе.

— Глядзі, бачыш?

І Міхась убачыў чалавека з белымі вусікамі, з палкаю і кошыкам у руках.

— Ну дык што, хто гэта?

— Гэта ён, той самы Сіняўскі, што навёў на твайго бацьку акупантаў, і акупанты твайго бацьку забілі, бо ён памагаў

ртызанам, носячы ім весткі з галоўнага штаба. Гэты самы іняўскі яго падсачыў.

Тады, у той кірмашны дзень, Сіняўскага твар моцна ўрэзаўся памяць Міхасю.

Увечары маці яму расказала, што Сіняўскі меў багаты хутар што, пасля прыходу Чырвонай арміі, ён збег з вёскі, хадзілі уткі, што ў другім месцы ён вельмі багата жыў на новым хутары.

— А гэта праўда?—спытаў Міхасёў таварыш. Аднак яму тала ясна шмат што з работы гэтага майстра на заводзе. Апрача аго, ён успомніў: ходзяць няясныя чуткі, што Сіняўскі ўцёк д раскулачвання. Цяпер гэта можна будзе дакладна праверыць.

— Выклічце маю матку, яна яго пазнае і скажа ўсё,—гаварыў узбуджаны Міхась.

Неспакойны, узбуджаны вышаў ён са сталоўкі.

Канчаўся дзень, сонца выбілася з-за хмар, вецер сціхаў.

Гуў горад, гуў завод, у якім працавала вячэрняя змена.

---

## УВОСЕНЬ

Над пажоўклымі палямі
Ціха ветры пралятаюць
І нясуць у шэрань далей
Гул калгаскіх малатарань.

Дзесьці там, за дальнім лесам,
Трактар сыпле звонам свежым,
Узнімае трохлямешным
Быльнягоў глухія межы.

А калі за долам дальнім
Нізка, нізка сядзе сонца,—
Шум і гоман у чытальні,
І гаворкі той—бясконца.

І над свежаю газетай
Не адзін схіляе галаў,
Дзе у кожным слове—мэта,
Нашых дзеяў гучны голас.

І да позняй, позняй ночы
Шум і гоман у чытальні,
Покуль зорак ясных вочы
Не памруць у высях дальніх.

А калі-ж над новай вёскай
Ранні золак пралятае—
Зноў на полі мерны лёскат,
Гул на гумнах малатарань.

в. Барылы,
Полацкі р-н.

## НАД ЗГУБЛЕНЫМ МЕСЦАМ

Буслы клякочуць за сялом,
Клякочуць, кружацца і ходзяць,
Шукаюць згубленае штосъ,
Шукаюць пільна й не знаходзяць.

Кідаюць позіркі ў бакі,
Ў задуме падымаюць ногі,
Убачаць кусцік асакі—
На момант зменшваюць трывогу.

Але няма, не адшукаць
Таго, што бачылі вы летась,
Ляціце-ж, буслы, пашукаць
Дзе-небудзь згубленае месца.

Бо тут не журыцца лаза,
Бо тут няма балот і лужын.
І толькі ўдоўж і ўшыр ляжаць
Канаваў роўненькія стужкі.

Балотны дол змяніў масіў,
На дно канаваў гніль адсунуў.
І сёння тут шумяць аўсы—
Калгаскім коням пачастунак.

г. Менск.

---

## БРЫГАДЗІРЫ

1.

Ёй усяго сямнаццаць год,
Яе жыццё квітнее маем,
Непераможных перашкод
Яна з брыгадаю не знае.

Упарта праз усю вясну
Яны палеткі штурмавалі,
Ішлі ў паход за ярыну,
За кожны ўзораны кавалак.

А як вясна сплыла ў нябыт,
Паспела жыта на узгорках,—
Брыгада вопыт барацьбы
Перадала на фронт уборкі.

І зноў няспынна кожны дзень
Сваю брыгаду комсамола
У поле Яхніна вядзе
На бой за кожны спелы колас.

Шануе дзеўчыну калгас,
Як комсамолку-брыгадзіра:
Яна—за новае змагар—
Жыццю старому піша вырак.

2.

Яе гады сагнулі ў крук,
На твар адзнакі палажылі,
І, як вужы, на пальцах рук
Ляглі пакручаныя жылы.

Але у сэрцы ёсць запал
Ды незгараючая радасць:

Як выйдзе лён яна трапаць,
Аж дзівіцца уся брыгады.

Маланкай лётае трапло,
Кайстра мяцеліцаю валіць,
Ахапкі радасныя слоў
Лятуць у снежныя аддалі.

Трапаюць рупна да цямна,
А месяц выплыве, як чайка,
Усе разыйдуцца—яна
Праверыць кожную ручайку...

І раніцой, калі з ялін
Спадае долу белы іней,
Яна праводзіць да лагчын
Вазы ільну здаваць краіне.

Полацк.

---

## ВЕЧАР НА КАЛГАСНЫМ СЕНАКОСЕ

У люстрана-бяздонныя воды
Заглянула вячэрняе сонейка,
І ў ружовым трымценні заходу
Пакацілася ўніз па сасонніку
У люстрана-бяздонныя воды.

Ну і сонца, гарачае сонца!..
Цэлы дзень вартавала простор,
Патанула ў зялёнай пялёнцы,
Юны месік паслала ў дазор,—
Ну і сонца, гарачае сонца!

Узышоў маладзік крутарогі,
Ад здзіўлення раскінуўшы косы:
Вартаваць спадзяваўся разлогі,
Ды пабачыў істужкі-пракосы,
А ішоў вартаваць ён разлогі.

Хто-ж зляжыў мурагі тыя валам,
Нібы бура густы частакол?
І прасторная даль адказала:

— Маладосць... калектыў... комсамол...—
Так прасторная даль адказала.

к-с. „Будзённы",
Крускі раён

## МАЛАДАЯ ПАЭЗІЯ

Вершы, сабраныя ў гэтым зборніку, напісаны маладымі і пачы[на]ючымі паэтамі. Тут ёсць аўтары, якія ўжо больш-менш выяў[ле]ны як здольныя паэты, творчасць якіх досыць часта друкава[лі]ся ў нашых перыядычных выданнях (Бацюшкоў, Зомерфельд, [Ку]рбацкі, Буза). Але тут ёсць і другая катэгорыя паэтаў, вершы [я]кіх друкаваліся яшчэ вельмі мала (Леанідаў, Мінін, Гуцаў, Загор[ск]і). Нарэшце, у гэтым зборніку прадстаўлены зусім пачына[ю]чыя, вершы якіх друкуюцца траха што першы раз (Алексеенка, [Ц]анавалаў, Калачынскі). Такім чынам літаратурны стаж гэтых [па]этаў вельмі неаднолькавы.

Большая частка прадстаўленых тут паэтаў—студэнты, мен[ш]ая—калгасная і вясковая моладзь і яшчэ меншая—рабочыя [і ч]ырвонаармейцы. І тое, што ў гэтым зборніку вельмі малы ўдзел [п]рынялі рабочыя пачынаючыя паэты, тлумачыцца, мне здаецца, [в]ыключна тым, што праца ў літгуртках на прадпрыемствах [у] апошні час заняпала. Аргкамітэт Саюза совецкіх пісьменнікаў [па]вінен самым рашучым чынам зрушыць працу літгурткоў.

Неаднолькавы літаратурны стаж і неаднолькавае агульнае [ра]звіццё прадстаўленых паэтаў палажылі свой адбітак на ідэй[н]ую і літаратурную якасць сабраных тут вершаў. Поруч з досыць [гл]ыбокімі і апрацаванымі вершамі Бацюшкова і Зомерфельда, мы [ма]ем і больш слабыя, менш апрацаваныя вершы Калачынскага, [Ц]анавалава і інш. Аднак, пры ўсіх сваіх недахопах вершы прад[ст]аўленых тут паэтаў рабочых, калгаснікаў, студэнтаў (таксама []нядаўнім рабочых і калгаснікаў) надзвычай выразна гавораць [п]ра тое, што „літаратурная справа становіцца справай агульна[п]ролетарскаю“, яны як найлепш сведчаць пра велізарны куль[т]урны рост не толькі рабочых, а і калгасных і сялянскіх мас [у] самых глухіх некалі кутках нашай краіны. Гэтыя вершы з'яў[л]яюцца найлепшым адказам на тыя хлуслівыя варожыя шэпты, [я]кія ідуць з вуснаў недабітых нацдэмаўскіх элементаў пра нейкі, [в]ыдуманы імі, заняпад ці крызіс беларускай совецкай паэзіі.

Агульнае, чым вызначаюцца сабраныя ў гэтым зборніку верш маладых і пачынаючых паэтаў, гэта—актуальнасць тэматыкі (ка гаснае будаўніцтва, змаганне за падвышэнне і ахову ўраджа абарона краіны, асушка балот), цёплы, шчыры, актыўны пад ход да нашага жыцця, а адгэтуль—простая форма, досыць час свежая і арыгінальная метафарычнасць, бадзёрая і мужная рытмік

Уважаючы аднак на ўсё тое добрае і дадатнае, што ёс у паэзіі пачынаючых, я зусім не збіраюся іх захвальваць. На адварот, я хачу спыніцца галоўным чынам на тых недахопах і н тых зрывах, якіх яшчэ таксама нямала ў вершах нашых мала дых і пачынаючых паэтаў. Здаровая і канкрэтная крытыка— лепшая дапамога ў творчасці, як і ў кожнай рабоце.

* * *

Галоўныя недахопы, якімі багаты сабраныя тут вершы, ідуц у асноўным па чатырох лініях: па лініі захаплення фармальны штукарствам; па лініі некрытычнага, выкарыстання літаратурны фактаў; па лініі неканкрэтнага, схематычнага паказу нашай рэча існасці і, аднача́сова, па лініі сухой фактаграфіі, калі адсутніча ўсякі творчы вымысел. Усе гэтыя недахопы ў цэлым і кожны з іх паасобку зніжаюць ідэйную і мастацкую вартасць паэзі пачынаючых і маладых аўтароў.

Захапленне фармалістычным штукарствам найбольш ярк выразілася ў Зомерфельда і асабліва ў Бацюшкова.

Мікола Бацюшкоў, як мы памятаем, у першых сваіх верша ішоў непасрэдна ад жыцця, ад рабочага асяроддзя, у якім ён быў Гэтага нельга сказаць пра вершы, змешчаныя ў гэтым зборніку Праўда, і тут Бацюшкоў бярэ тэмы з нашай рэчаіснасці, але распрацоўваючы іх, робіць установку не на як мага шырэйшы і глыбейшы паказ нашай рэчаіснасці, а на як мага арыгінальней шую метафару, на як мага гучнейшую рыфму, як самамэту У выніку часта аб'ектыўны паказ рэчаіснасці знікае, падмяняецца надзвычай суб'ектывістычнымі вобразамі яе, пададзенымі пра выштукаваныя метафары. Вазьміце як прыклад хоць-бы першы верш з нізкі „Эскізы“:

> Разгубленых губ высвісты
> Згубілі нямала дзіў,
> Ім яблыкам спелым не вісне
> Між лісцяў-зор маладзік“.

Расшыфраваць гэтую шараду трудна. Аўтар, відаць, хацеў сказаць, што разгубленая пад ударамі навальніцы рэвалюцыі

моладзь чужога нам класа згубіла разам з панаваннем не толькі ўладу, але і магчымасць радасна ўспрымаць сваю маладосць, красу прыроды. Аднак гэта сказана ў такіх выразах, што трудна зразумець—якія высвісты? чыіх губ? дзе згубілі „нямала дзіў"? як яны (губы) могуць губляць дзівы? Гэта не каверзныя пытанні да аўтара, а зусім натуральныя, бо для чытача, прачытаўшы гэтыя радкі, надта цяжка што зразумець. І падобных выштукаваных метафар у вершах Бацюшкова нямала: „Рыфмы тарыфных радкоў разбяры", „У борт начэй электры б'е прыбой", „У сполах полаг слоў дзіравых" і інш. Усе яны ідуць ад суб'ектывістычных вымыслаў аўтара, а не ад рэальнага жыцця, бо што, скажам, ёсць агульнага паміж рыфмамі і тарыфнымі нейкімі радкамі, альбо паміж бартом і ноччу, каб іх параўноўваць, ці будаваць на аснове іх падабенства метафару? У дадзеным выпадку аўтар ганяўся за арыгінальнаю метафараю, за гукавымі асацыяцыямі („у сполах полаг слоў"), за гучнаю рыфмаю на ўрон зместу („і маладосць ды на маю"—„калоціпца дынамаю").

Фармалістычнае штукарства зрабіла свой уплыў не толькі на паасобныя метафары, а на ўвесь змест, на кампазіцыю вершаў. Ганяючыся за гучным словам, за выштукаванаю метафараю, паэт вымушан часта падмяняць паказ рэчаіснасці суб'ектывістычнымі вымысламі пра яе. І канкрэтнасць, якая адчуваецца ў вершах Бацюшкова, гэта часта не жывая рэальная канкрэтнасць, а ўяўная, выдуманая, як у трэцім вершы з нізкі „Эскізы". Тут няма ні жыццёвай, ні кампазіцыйнай паслядоўнасці; тут пераскакванні з „тарыфных радкоў" да „марозных вуснаў дзяўчат", да „звяроў, загубіўшых грунт",—нічым не матываваны.

Я гавару, што ўсе зазначаныя недахопы ў вершах Бацюшкова з'явіліся непасрэдна ў выніку фармальнага штукарства. Само сабою зразумела, што пагоня за гэтым штукарствам чымсьці абумоўлена. А абумоўлена яна, на маю думку, адыходам Бацюшкова ад рэальнага жыцця, ад чыннага ўдзелу ў ім. Гэта стварае для Бацюшкова надзвычай вялікую пагрозу, не толькі ў тым сэнсе, што вершы яго становяцца недаступнымі чытачу, а і ў тым сэнсе, што Бацюшкоў хутка вымушан будзе паўтараць свае фармалістычныя цацкі (ён гэта робіць ужо наваг у гэтых вершах, паўтараючы „блізка віцца"—„бліскавіца"), бо толькі жывы рознастайны змест дае багатыя жывыя формы.

Перамагаючы гэтыя недахопы, Бацюшкову трэба развіваць тое здаровае, маладое, сапраўды мастацкае, што ёсць у ягонай

паэзіі—гэта лірычны, не пасіўны, а глыбока актыўны, як удзельніка, падыход да з'яў (у вершы „Мне толькі восемнаццаць"), рэальную і простую, я сказаў-бы, густую, насычаную матэрыяльнасцю, метафарычнасць („а вокны сокам мокнуць у вясенніх разлівах"), свежую, гутарковую лексіку.

Гэтыя-ж недахопы фармалістычнага парадку (праўда, у меншай ступені) уласцівы і Зомерфельду. Увесь гэты „торгат, трубны утробны кліч" ёсць, менавіта, стаўка на гукаперайманне. Але ў такім фармалістычным, самамэтным выглядзе яно не ўзмацняе вобраз, а, наадварот, зніжае яго. І вобраз паравоза, які хацеў даць аўтар у дадзеным выпадку, перад чытачом не паўстае.

Асабліва ярка ф рмалізм праявіўся ў вершы Зомерфельда „На дарозе", які рэ кцыя не прыняла да друку. Тут аўтар у пагоні за алітэрацыямі дайшоў да бяссэнсіцы:

„Хліпка, пахлёбкаю ліпкая хляб,
хліпатам дых лагчын".

Што тут тав. Зомерфельд хацеў выказаць—простымі словамі не перадасі. А тым часам прастата ў паэзіі—адна з асноўных яе якасцей, і за гэта мы павінны змагацца, і гэтага павінны дабівацца ў сваёй творчасці і маладыя пісьменнікі.

Блізка з першым недахопам, які я назваў фармалістычным штукарствам, змыкаецца і другі недахоп, што ідзе, галоўным чынам, па лініі некрытычнага засваення літаратурных фактаў. Гэтая з'ява таксама фармалістычнага парадку, бо паэт бярэ тут гатовыя ўжо літаратурныя формы з старой паэзіі і механічна ўкладае ў іх свой новы змест. Так напісан верш Калачынскага „На калгаскім сенакосе", так напісан верш А. Бузы; „Вартавы", так напісан, у пэўнай ступені, і верш Леанідава „Два таварышы".

Што дрэннае ў гэтых вершах? Тое, што, чытаючы іх, адчуваеш ужо штосьці чутае, крыху старое. Ад гэтага ўражанне цмянее, і вобразы, праз якія выражаецца ідэя, а значыць і сама ідэя—паўстаюць перад чытачом невыразна, у шэрых колерах. Больш таго, адчуваецца нейкая штучнасць, несуладнасць паміж тым, што паэт хоча сказаць, і паміж тым, як ён гэта гаворыць, іначай кажучы—паміж зместам і формаю верша.

Возьмем як прыклад верш Калачынскага „На калгаскім сенакосе". Аўтар хацеў паказаць, як ударна, з якім напорам працавала моладзь (комсамол) на сенажаці. З праробленай імі работы задзівілася аж усё навакольнае. Уважаючы на гэты змест, аўтар

авінен быў-бы даць такую форму верша, якая як найлепш адпавядала-б вобразу гэтай комсамольскай напорнасці. Паэт павінен быў-бы ісці ад жыцця, ад ідэі да формы, а ён зрабіў наадварот: запазычыў дзесьці ў старой паэзіі форму і пастараўся ўціснуць у яе свой змест. У выніку ўсе гэтыя старыя, выштукаваныя сімбалісцкія эпітэты і метафары, як „люстрана бяздонныя воды“, як „ружовае трымценне“, як „зялёная пялёнка“, як „іс-тужкі пракосы“, уся гэта спакойная, надуманая рытміка, пяцірадковая строфіка з паўторамі—усё гэта дало ў выніку не малюнак гарачай напорнай работы, а спакойны фетаўскі вячэрні пейзаж.

Амаль тое-ж самае можна сказаць і пра верш Бузы „Вартавы“, дзе і рытміка і строфіка запазычаны з старой баладнай паэзіі, амаль тое-ж самае можна сказаць і пра верш Леанідава „Два таварышы“, дзе кампазіцыя, пабудаваная на супроцьстаўленні добрага і злога, мужнага і баязлівага, тысячы раз выкарыстана ў маралістычных буржуазных творах.

Гэты недахоп ёсць вынік не толькі некрытычнага засваення пачынаючымі паэтамі старой літаратуры, але ён ёсць вынік і яшчэ не досыць глыбокага, не досыць канкрэтнага засваення тэмы. Каб перамагчы ў працэсе творчасці тыя зрокавыя колеры і рытмічныя гучанні, якія засталіся ў галаве з прачытанага—свая ўласная для паэта тэма павінна зіхацець усімі сваімі фарбамі, павінна гучэць усімі сваімі тонамі, павінна паўстаць ва ўсёй сваёй канкрэтнасці, ва ўсёй сваёй красе і прывабнасці. А каб гэта было, паэт павінен глыбока пранікаць у жыццё, ва ўсе ягоныя дробязі, паэт павінен, як кажуць, бачыць і ў сне, і на яву свае вобразы. Толькі ў такім разе новая тэма загучыць пановаму, выльецца і матэрыялізуецца ў адпаведную стройную форму.

* * *

Важнасць таго, што толькі глыбокае пранікненне ў жыццё, у сваю тэму дае ў выніку высокаідэйны і высокамастацкі твор, важнасць гэтага трэба зразумець не толькі згаданым паэтам, у якіх недахопы ў творчасці выражаюцца ў некрытычным засваенні літаратурных фактаў, у наследаванні старым літаратурным творам, у несуадпаведнасці паміж запазычанымі старымі формамі і новым зместам. Гэта трэба зразумець і тым пачынаючым паэтам, у якіх недахопы ідуць галоўным чынам па лініі адцягненага, схематычнага паказу нашай рэчаіснасці. У чым гэта выражаецца канкрэтна?—Пакажам на прыкладах.

Алесь Загорны піша верш „Моладзі“. Жанр, праўда, гэтага верша—агітка, заклік. Аднак, гэта не значыць, што паэт не павінен канкрэтна паказаць тое, за што ён агітуе. Час галаслоўных агітацый у паэзіі даўно мінуў. Мала цяпер сказаць „развінайся ў маршы, моладзь“, трэба паказаць канкрэтна, для чаго, для якіх мэт моладзь мусіць „развінацца ў маршы“. У вершы гэтага паказу няма. Аўтар абмяжоўваецца ў вызначэнні мэт агульнымі словамі:

„... уключайся ў агульны наступ
будаваць і каваць, і касіць,
і трымаць на лінкоры вахту“.

Такая неакрэсленасць задач, адсутнасць паказу штодзённай працы комсамола, якая-б магла служыць прыкладам для беспартыйнай моладзі,—зніжаюць вартасць агіткі, бо самым лепшым сродкам агітацыі ёсць канкрэтны, наглядны прыклад.

Яшчэ больш ярка (паколькі тут ужо не чыста агітацыйны жанр) гэтая агульшчына, схематызм праявіўся ў вершах Канавалава, асабліва ў першым. Чытач не верыць нейк, што комсамолка-брыгадзір Яхніна не знае „неператожных перашкод“, што яна з брыгадаю „ўпарта праз усю вясну палеткі штурмавала“, што яе „брыгада вопыт барацьбы перадала на фронт уборкі“, што Яхніну „шануе калгас“. І не зусім верыцца чытачу ў гэта толькі таму, што ніякіх перашкод, якія-б перамагала-б Яхніна, аўтар не паказвае. Не відаць таксама, што яна з брыгадаю „ўпарта штурмавала палеткі“. Пра гэта толькі гаворыць нам сам паэт, але чытач на слова не верыць. Калі пісьменнік гаворыць, што „брыгада перадала свой вопыт ва фронт уборкі“, дык чытач мае рацыю патрабаваць, каб яму паказалі, у чым заключаўся гэты вопыт. А вось канкрэтнага паказу ў дадзеным вершы Канавалава і няма.

У гэтым сэнсе другі верш Канавалава значна лепшы. Тут чытач больш верыць, што старая жанчына сапраўды ўдарніца, бо ў яе „маланкай лётае трапло“, яна, калі ўжо ўсе скончаць работу і адпачываюць, правярае яшчэ „кожную ручайку“, а раніцою праводзіць на пункт здачы вазы з-ільном. У гэтым вершы ёсць ужо канкрэтны паказ, канкрэтны вобраз жанчыны, хоць як след яшчэ і не разгорнуты.

Як бачым, для мастацкага паказу патрэбны не агульныя словы, што такі-та добра працуе, тут патрэбны самыя, на першы погляд, дробныя рысачкі, якія характарызавалі-б працу дадзенага чала-

ека. Але не ўсе рысачкі паэт павінен паказваць, а найбольш яркія, найбольш характэрныя. У дадзеным, напрыклад, вершы Канавалава пра старую жанчыну-ўдарніцу паказана не ўсё яе жыццё (гэтага зрабіць у адным вершы немагчыма), нават не ўсе моманты яе работы за адзін дзень, а толькі найбольш яркія. І вось перад кожным паэтам стаіць задача ўмець знайсці, адлучыць самае важнае ад другараднага. Тут паўстае пытанне пра творчы вымысел.

* * *

Я гаварыў ужо спачатку, што недахопы значнай часткі пачынаючых паэтаў, сабраных у гэтым зборніку, ідуць па лініі сухой фактаграфіі, калі адсутнічае ўсякі творчы вымысел, усякая творчая фантазія. Што гэта канкрэтна азначае? Гэта азначае, што паэт у сваім творы апісвае без усялякага разбору ўсё, што толькі яму пападзецца на вока. Так напісаны, у пэўнай ступені, вершы Мініна, вершы Семашкі, Алексеенкі і інш. Разбярэмся дакладна ў гэтым пытанні хоць-бы на прыкладзе верша А. Бузы „Вартавы". Аўтар хацеў у гэтым вершы паказаць, як пільна вартуюць калгаснікі ўраджай. Ён бярэ і апісвае па парадку, як „едзе Яська на шэрым кані, успамінае геройскія дні", як „на полі шуміць ураджай", стаяць снапы, а да іх крадзецца злодзей, як Яська ловіць гэтага злодзея і вядзе ў калгас.

Тут няма агульных разважанняў пра класавую пільнасць калгаснікаў, тут ёсць канкрэтны паказ, але гэты паказ сухі, фактаграфічны, не насычаны дзеяю. На справе так не бывае.

Калі паэт не бачыў дасканала такога здарэння, пра якое ён піша, ён мае права на аснове жыццёвых фактаў выдумаць, стварыць, падобнае здарэнне насыціць яго дзеяй. У гэтым, груба кажучы, „стварэнні" на рэальнай, жыццёвай аснове вострых канфліктаў і яркіх падзей і заключаецца творчы вымысел, творчая фантазія, якую павінен мець кожны, хто бярэцца за пяро.

Зразумела, што творчы вымысел у сапраўдным мастацкім творы праяўляецца не толькі ў сюжэтнай пабудове, а ў кожным самым дробным кампаненце, як метафара, эпітэт і т. д. Але творчы вымысел, як адзнака метаду соцыялістычнага рэалізма, не мае нічога агульнага з суб'ектывістычнай выдумкай некаторых паэтаў. Творчы вымысел ёсць вынік глыбокага вывучэння і абагульнення жыццёвых фактаў, тым часам, як суб'ектывістычныя выдумкі ёсць вынік нездаровага ўяўлення пра нашу рэчаіснасць, ёсць вынік адыходу ад рэчаіснасці.

Як прыклад больш-менш удалага верша, дзе цесна спалучаецца здаровы творчы вымысел і рэальная жыццёвая аснова, я назваў-бы верш Гуцава „Шынель“. Тут узята самая звычайная тэма—абарона нашай краіны. Але паэт на развважае наогул пра задачы абароны краіны. Ён бярэ канкрэтны факт, стары вайсковы шынель, і навакол яго разгортвае гутарку з сваёю маткаю пра пагрозу вайны. Гэты вымысел з шынялём вылучае дадзеную гаворку з іншых падобных гаворак пра пагрозу вайны і абарону краіны, якія мы чуем і маем амаль штодзень у нашым жыцці і ў нашых вершах. Ад гэтага верш значна выйграе ў мастацкім сэнсе. Праўда, у ім яшчэ вельмі шмат недахопаў тэхнічнага парадку, і над гэтым таварышу Гуцаву трэба старанна і ўпарта працаваць, каб дасканала авалодаць паэтычным майстэрствам.

Тэхнічных і моўных недахопаў шмат і ў вершах іншых пачынаючых паэтаў, прадстаўленых у гэтым зборніку. Я не спыняюся на іх падрабязна, бо думаю, што тыя папраўкі, якія зрабіла рэдакцыя, дапамогуць маладым аўтарам разабрацца і зразумець свае недахопы. Патрэбна толькі будзе ўпартая і штодзённая праца над тэхнікаю верша, каб знішчыць гэтыя недахопы канчаткова.

* * *

Не глядзячы на ўсе адзначаныя і не адзначаныя памылк і хібы ў творчасці маладых і пачынаючых паэтаў, той, хто прачытае да канца ўвесь гэты зборнік, не можа не заўважыць той яркай іскры сапраўднага мастацтва, якая цепліцца ў сабраных тут вершах. Папершае, як я ўжо гаварыў у пачатку, тэматыка маладой паэзіі надзвычай актуальная і рознастайная. Кожны аўтар, наколькі ў яго хапае сіл, паказвае часцінку тае велізарнае работы, якая ідзе ў нашым вялікім Саюзе рэспублік. І самае важнае, што амаль кожны аўтар ставіцца да гэтае работы не як пасіўны наглядальнік, а як актыўны ўдзельнік яе. Адгэтуль тая шчырасць і цеплыня, той глыбокі лірызм, чым характарызуецца пэўная частка пададзеных тут вершаў. Як прыклад, назавём хоць-бы верш М. Бацюшкова „Мне толькі восемнаццаць“, вершы Зомерфельда „Песня“, „На педпрактыку“, верш Курбацкага „Рэспубліка кліча“, „Шынель“ Гуцава, „Ураджайнае“ А. Загорнага і інш.

Другое, чым вызначаюцца сабраныя тут вершы, гэта прастата і даступнасць іх (за выключэннем некаторых вершаў Бацюшкова)

шырокім чытацкім масам. Тут амаль зусім няма вычурнасці, штучнасці, аднак тут ёсць шмат свежага і арыгінальнага. Прыгадайце сабе хоць-бы той-жа верш Гуцава „Шынель“, „Песню“ Зомерфельда, „Ураджайнае“ Загорнага, цэлы шэраг месц з вершаў А. Бузы, Курбацкага, Семашкі і інш.

Нарэшце, прадстаўленыя тут вершы гавораць пра досыць вялікі ідэйны рост пачынаючых паэтаў. У гэтым сэнсе вылучаюцца некаторыя вершы Бацюшкова з нізкі „Эскізы“, дзе ён спрабуе (праўда, з вялікімі зрывамі) глыбока, ва ўсіх яе сувязях, асэнсаваць нашую багатую сучаснасць. Людзі пачынаюць выбівацца з вузкіх абмежаваных рамак свайго цэха альбо калгаса і спрабуюць паказаць работу гэтага цэха ці калгаса як адно з невялікіх звенняў у непарыўным ланцугу вялікае творчае працы ў нашым Саюзе („Трактар“ Курбацкага, „Вартавы“ Бузы).

Ёсць у пачынаючых паэтаў не малы і літаратурны рост. Той, хто год назад (напрыклад, Загорны, Калачынскі, вершы якіх мне даводзілася чытаць) не мог правільна звязаць некалькіх радкоў,—цяпер ужо больш-менш не дрэнна валодае рытмам, рыфмаю.

Усё гэта гаворыць за тое, што маладая савецкая паэзія расце разам з агульным эканамічным і культурным ростам нашае краіны. Патрэбна толькі з боку Саюза савецкіх пісьменнікаў штодзённая канкрэтная дапамога маладым аўтарам. Патрэбна толькі добрая таварыская крытыка творчасці пачынаючых пісьменнікаў. Рэдакцыя і аўтары гэтага зборніка і спадзяюцца, што гэтая таварыская і глыбока-прынцыповая крытыка менавіта і пачнецца самым актыўным чынам з дадзенай кніжкі.

---

## МАЛАДЫЯ ПРАЗАІКІ

У гэтым альманаху надрукаваны творы маладых празаікаў. Некаторыя з гэтых імён (Л. Туманскі, С. Шаўцоў) ужо вядомы ў друку, некаторыя (Т. Бірыла, С. Паўлоўскі і інш.) друкуюцца першы раз. З жанравага боку—мы тут спатыкаем апавяданне, нарыс, аповесць (урыўкі з аповесці С. Шаўцова).

Тут надрукаваны чатыры закончаных апавяданні. У рэдакцыйных матэрыялах, адкуль рэдакцыя выбірала творы для гэтага альманаха, найбольш ёсць апавяданні. Гэта трэба расцэньваць, як дадатную з'яву, папершае, таму, што апавяданне і навела самі па сабе надзвычайна цікавы жанр і вельмі патрэбны ў совецкай літаратуры; падругое,—гэты жанр вымагае бадай больш, як так званае „вялікае палатно", самае крапатлівае работы над найдрабнейшымі дэталямі ўсіх кампанентаў твора, а гэта ўжо само па сабе ёсць добрая школа для аўтара; патрэцяе,—самы факт таго, што маладыя аўтары бяруцца за складаны літаратурны жанр, ужо сведчыць аб росце маладога аўтара.

Гэтым апошнім я хачу сказаць от што. Быў час, што найбольш маладых аўтароў пачыналі сваю літаратурную працу з нарыса. Часамі гэта нават рэкамендавалася. Гэта, перш за ўсё, зніжала самы нарыс як жанр, зводзіла яго на нейкую ніжэйшую ступень, праз якую трэба пераступіць, ідучы ў старэйшую літаратурную групу. Пасля—гэта адразу ўжо ўводзіла аўтара ў план найменшага развіцця творчае фантазіі. Чаму? хіба нарыс не ёсць такі жанр, дзе патрэбна творчая фантазія? Хіба нарыс сапраўды такі ніжэйшы жанр, які не стаіць на лініі творчасці. Не. Успомнім нарысы Глеба Успенскага, М. Горкага, іх нарысы—гэта класічныя літаратурныя творы. Але справа ў тым, што ў нас часта разумелі нарыс, як толькі натуралістычную падачу фактаў, якія аўтар наглядае. Хоць гэтая падача фактаў ішла па лініі пэўнай ідэі, аднак-жа яна не спрыяла развіццю творчае фантазіі аўтара. А работу з маладым аўтарам, памойму, трэба пачынаць з таго, што адразу ўжо будзіць у ім творчую фантазію,

накіроўваць яго на творчы вымысел. А для гэтага і нарыс трэба паставіць у шэраг усіх іншых жанраў, які мае сваю спецыфіку, так сама, як і раман ці навела, вымагае вялікіх ідэйных абагуленняў.

Свае творы нашы маладыя аўтары пішуць на сучасным матэрыяле. Гэты матэрыял яны добра ведаюць. І літаратурная вучоба маладых аўтароў павінна ісці па лініі набыцця ўмельства літаратурна аформіць гэты матэрыял, зрабіць з яго літаратурны твор. А для гэтага аўтар павінен развіваць у сабе творчую фантазію, ісці на мастацкі вымысел. Гэты вымысел—рэальны вымысел. І сутнасць яго ў тым, што аўтар падае факты, з'явы, вобразы—характэрныя і тыповыя, але сабраныя не з аднаго толькі завода ці калгаса, а сканцэнтраваныя ў творы з самага шырокага круга. Пры гэтым факты самыя цікавыя і характэрныя. Аўтар выходзіць за межы свайго толькі завода ці калгаса. Ён у сваім мышленні стварае падзеі, канцэнтруе іх у вузел. Гэтыя падзеі маюць сваіх прататыпаў у жыцці, або калі не маюць дакладнага свайго прататыпа, ці калі аўтар не бачыў яго, дык усё-ж гэтыя падзеі ёсць рэальныя. Гэта значыць, што па аснове законаў гісторыі, законаў свету—яны могуць быць.

Сваім героям—тым людзям, якія дзейнічаюць у творы, аўтар павінен стварыць такія сітуацыі, дзе-б героі маглі сябе найбольш выявіць, самі паказаць сябе, без аўтарскіх тлумачэнняў.

Фантазія аўтара будзе ствараць цікавыя і філасофскі правільныя вымыслы толькі тады, калі аўтар будзе ведаць, як і што павінен рабіць у дадзеным выпадку яго герой. Для гэтага трэба „набываць практыку"—глыбока вывучаць жыццё і ўмець з паасобных з'яў жыцця рабіць правільныя вывады. А без марксісцкага разумення свету пісьменнік не можа даць правільнага тлумачэння ўчынкам людзей, з'явам і падзеям. Адгэтуль вывад адзін: творчая вучоба маладога (гэтак як і кожнага) пісьменніка, аволаданне тэхнікай літаратурнае работы, павінна ісці пад знакамі марксісцкага мышлення, пад знакам вывучэння марксізма-ленінізма.

У гэтым сэнсе і мысліцца намі літаратурнае майстэрства: умець, на аснове рэальных фактаў і правільнага іх разумення „выдумаць" і звязаць у адзін вузел такія падзеі, якія-б адабразілі ў сабе тыя з'явы ў жыцці, з якіх яны „спісаны-выдуманы". Але гэта павінна быць зроблена для таго, і так, каб той, хто чытае кнігу, так сказаць, перажывае гэтыя з'явы нанава, зрабіў дакладныя з іх вывады. Тады, калі ў жыцці не кожны мог-бы

з гэтых самых з'яў зрабіць вывады такія, якія ўжо зрабіў аўтар, і зрабіў з такой пераканальнай праўдзівасцю і з такім агнём, які-б абуджаў-бы ў чытача імкненне да дзейнасці ў кірунку той ідэі, якая пакладзена ў аснову твора.

Для гэтага мабілізуюцца ўсе мастацкія сродкі аўтара. Для гэтага павінна ісці ўпартая праца над усімі кампанентамі твора.

У гэтым альманаху надрукаван нарыс У. Козляка „Вынаходцы". У гэтым нарысе расказваецца пра тое, як малады рабочы ў мэтах рацыяналізацыі вытворчасці ўдасканаліў машыну. У часе працы на заводзе ён вывучаў машыну, рабіў чарцяжы ў сваім блакноце, захапляўся гэтаю справаю так, што нават забываў пайсці на канцэрт у клуб. Нарэшце ўначы, дома, пры дапамозе свайго таварыша, вынаходства было зроблена. Тут рэальныя факты, пададзеныя праўдзіва. Але яны творчаю фантазіяй аўтара не ўзведзены на ступень такога літаратурнага твора, дзе-б той самы малады рабочы паказаў сябе, як жывога, каб перад намі быў поўнакроўны вобраз рабочага-рацыяналізатара.

Калі аўтар не мог знайсці на сваім заводзе прататыпаў для адпаведных сітуацый, у якія варта было-б паставіць героя, трэба іх „выдумаць" на аснове рэальнага вывучэння жыцця і працы рабочага калектыва. Герой мог-бы спаткацца, скажам, з перашкодамі, або, наадварот,—з такою дапамогаю, якая-б абудзіла ў ім думкі пра новыя дэталі ў вынаходніцтве. У гэтую справу мог быць умешаны другі чалавек, які, скажам, нядаўна паявіўся на заводзе. Паміж гэтым чалавекам і рабочым-вынаходцам маглі, скажам, раней быць нейкія дачыненні, якія цяпер аднавіліся, і гэта ўсё так ці інакш уплывае на працу героя ў справе вынаходства. Гэта гаворыцца для прыкладу таго, што пісьменніку няйначай трэба развіваць у сабе творчую фантазію.

У гэтым сэнсе—цікавае апавяданне „Старая дошка". Тая рэдакцыйная праўка, якая тут ёсць, ішла па той лініі, якую вызначыў аўтар. Гэта лінія—псіхалагічнай эвалюцыі старога калгасніка, які, працуючы ў калгасе, зменьвае свае погляды, настроі, зжывае з сябе, так сказаць, псіхалагічную спадчыннасць старога жыцця. Тут аўтар якраз пайшоў па лініі творчай фантазіі.

Значную працу правяла рэдакцыя альманаха з аўтарам апавядання „Знаёмы чалавек". Рэдакцыя дамагалася ад аўтара сюжэтнай сціслацсці і закончанасці. Аўтар працаваў над гэтым апавяданнем пад наглядам рэдакцыі.

Апавяданне „Памылка“ сведчыць аб умельстве аўтара (С. Пінка) працаваць ужо зусім самастойна. Гэты аўтар у шэрагу ладых пісьменнікаў стаіць ужо досыць высока.

Гэтае-ж самае трэба сказаць пра аўтара аповесці „Дзеці ліцы“ С. Шаўцова, урыўкі з якое тут надрукаваны, і пра Туманскага—аўтара апавядання „Макар-абібок“.

С. Шаўцоў даўно ўжо вядомы ў друку, ак аўтар нарысаў апавяданняў. Аповесць „Дзеці вуліцы“ (яшчэ зусім не сконная) цікава, папершае, сваёю тэматыкаю. Яна напісана на му:—як беспрытульныя дзеці становяцца на шлях выхавання ўключэння ў шэрагі будаўніцтва соцыялізма. У першых разелах аповесці аўтар паказвае карэнні беспрытульнасці: вайна, упацыя, народныя бядоты, голад, беднасць, смерць бацькоў усіх гэтых прычын. Пасля—самае беспрытульніцтва. І от тут, гэтых наступных раздзелах, аўтару трэба працягнуць лініі вязі жыцця беспрытульнікаў з тым працэсамі жыцця краіны, ія ўрэшце прыводзяць да знішчэння ўсялякай беспрытульнасці. сутнасць гэтага—адзін з галоўных недахопаў нават і гэтых разелаў, што надрукаваны ў гэтым альманаху. С. Шаўцоў здольны тар. Ён уладае для свае творчасці цікавым і канкрэтным матэялам. У яго ёсць здольнасці двума-трыма штрыхамі даць браз, нарысаваць лінію характару. У яго ёсць фантазія, ён смела зе на мастацкі вымысел. Дапрацоўваючы гэтую аповесць, яму эба будзе працаваць над адборам толькі тыповых дэталей, над ожэтнай стройнасцю і закончанасцю, чаго яшчэ бракуе аповесці.

Апавяданне А. Туманскага „Макар-абібок“ напісана ў сатырычым плане—у плане высмейвання гультайства і абломаўшчыны. ко самая стылістыка апавядання накіроўвае чытача ў план кпін Макара-абібока. Гэты прыём паказвае, што аўтар ужо свядома араецца паставіць на службу ідэі кампаненты твора. Што гэта выпадкова, а зусім свядома ў аўтара, гаворыць той факт, то ранейшае яго апавяданне „Нясконачаная аповесць“, якое ыло надрукавана ў № 3 часопісі „Заклік“, не ідучы ў плане тыры, напісана зусім іншымі стылістычнымі прыёмамі.

„Ветрык, мякка-ваўняны, чуць-чуць калыхаў паветру сыратую“. „Іскрынкамі-лункамі паблісквае электрычная лямпачка“. Шыр паднябесная раскінулася неабмерна-шырокая; поле, ой, оле—дываном белым заслана“.

Гэта ўзоры стылістыкі ў гэтым апавяданні. Гэтыя „ветрыкі кка-ваўняныя“, гэтыя „іскрынкі-лункі“, гэтае—не проста поле,

а „поле, ой, поле“—усё гэта акружвае Макара-гультая, а бібока, прагульшчыка. Яго цягне спаць пад хвойкаю. Яго цягне не да працы, не да дзейнасці, а да санлівага наглядання гэтых „хвоек, хвоечак, сонейка, поля, ой, поля“. Гэтая саладкавасць, сантыментальнасць гучыць як іронія.

Фразы ў аўтара маюць кірунак да старадаўняга сялянскага сказу. Напрыклад, „вісела кайстра чорная“, „памацае макраватаю лапаю за сцены сухія“ (замест „чорная кайстра“, „за сухія сцены“). „Вецер, мякка-ваўняны, чуць-чуць калыхаў паветру сыраватую“. „Шкадавала сына свайго шалаўлівага, распуснага“.

Успомнім старую народную легенду: „Братец Иванушка и сестрица Аленушка“. Там гаворыцца: „Точат мечи булатные“ (Іванушку рэзаць). І гэтакая стылістыка адпавядае зместу, адпавядае светапогляду таго асяроддзя і таго часу, у якім была створана гэтая казка. Гэта ўзор злітнасці формы са зместам.

Але што было-б каб мы механічна запазычылі гэтую форму і перанеслі яе на змест нашае совецкае, пролетарскае літаратуры? Напрыклад так, форму фразы—„Точат мечи булатные“—перанеслі ў фразу з іншым зместам: „ужываюць угнаенні суперфасфатныя“, або—„камбайны звышмагутныя—ой, наша база індустрыяльная!“

Мы бачым, як некрытычнае засвойванне, механістычнае перанясенне формы ў чужы ёй змест, гучыць больш чым смешна. І гэта павінны ведаць маладыя аўтары і засвойваць спадчыну крытычна. (Гэта таксама трэба памятаць і некаторым нашым немаладым пісьменнікам, у якіх маладыя аўтары вучацца).

Прышлося спыніцца на гэтым таму, што апавяданне А. Туманскага ў значнай ступені ўдала выкарыстоўвае старую форму. Гэта літаратурны прыём, і тым больш гэта каштоўна, што гэта зрабіў малады аўтар, неспрактыкаваны яшчэ ў складанасці літаратурных прыёмаў.

Падбіраючы для гэтага альманаха мастацкую прозу, рэдакцыя мела на ўвазе падабраць гэтакія творы, якія-б давалі ўзоры розных літаратурных прыёмаў, якія так ці інакш вызначылі, ці спрабуюць вызначыць сябе маладыя аўтары. Пры рэдагаванні твораў рэдакцыя старалася захаваць і развіць лінію індывідуальнай асаблівасці кожнага аўтара. Чым яскравей будуць вызначацца гэтыя індывідуальныя асаблівасці пісьменніка, тым цікавей будзе яго творчасць.

---

## ЗМЕСТ

